Павал Касцюкевіч

# БУЛЬБА
# Ў
# РАЙСКІМ
# САДЗЕ

беларускі праваднік

па

Старым Запавеце (ТаНаХу)

Да 500-годдзя
Скарынаўскай Біблії

Логвінаў

*аўтар дзякуе Валянціне Аксак,*
*а таксама “Беларускаму Калегіюму” за магчымасць*
*прачытаць у 2017 годзе курс лекцыяў*
*“Біблія як палітычны тэкст” і “выпрабаваць”*
*на студэнтах пададзеныя ў кнізе тэзы.*

Ці расла ў Эдэме бульба? Хто плаціў за камунальныя паслугі Адама і Евы? Як сталася, што цар Давід зрабіўся першым партызанам і рэкецірам у гісторыі чалавецтва? Чаму грамадзянін БНР, паэт Хаім-Нахман Бялік, так і не адрадзіў біблійны іўрыт? Што агульнага ў «Песні песняў» з «Песняй пра зубра»?

500 гадоў пасля выхаду скарынаўскага выдання перакладчык ізраільскай літаратуры і асірыёлаг-аматар Павал Касцюкевіч узяўся ўважліва перачытаць біблійныя аповеды і пашукаць у іх жывыя паралелі з беларускай, габрэйскай і блізкаўсходняй культурай, гісторыяй і палітыкай.

ISBN 978-609-8213-45-4

© Павал Касцюкевіч, 2018
© Logvino Literatūros namai, 2018

*Ну, што за студэнт сёння пайшоў!*
*Не адрознівае егіпецкай няволі*
*ад вавілонскага палону.*

Галіна Сініла, прафесар-бібліістка

## Напачатку стварыў Бог цмокаў вялікіх

Напачатку стварыў Бог... Кожны раз, калі чытаю самы першы раздзел Бібліі – «Кнігу Быцця» (ў Скарыны – «Кніга Роду») ўва мне б'ецца ножкай няспраўджаны арганізатар культурна-масавых мерапрыемстваў. Які размах, якая эпічнасць! Піратэхніка, парад планет, грандыёзнае авіяшоу над безданямі. Электрыфікацыя («хай будзе святло[1]») і меліярацыя («хай будзе прасцяг пасярод вады»[2]) ў сусветных маштабах! Прамысловы альпінізм урэшце. Бліскучае, галавакружнае апісанне ці не самага плённага тыдня Богавай кар'еры. Тут усё першыня: і нараджэнне, і смерць.

Калі ў чытачоў першых біблійных радкоў пакрысе, з кожным новым Гасподнім подзвігам, займае мову, дык у аўтара(ў) «Кнігі Роду» з цягам часу наадварот: шматслоўнасць павялічваецца, аповед абрастае дэталямі і дадаткамі. Урэшце, пятага дня дапяўшы

1 Роду 1:3. Працоўны пераклад групы Ірыны Дубянецкай.

2 Роду 1:6. Працоўны пераклад групы Ірыны Дубянецкай.

да стварэння жывых душ, пасля безыменных паўзуноў чытачу адкрываецца і першае ўласнае імя… і гэта будзе… будзе гэта… кракадзіл! (іўрыт: «танін»). Усё астатняе: галубы, авечкі, шакалы, ільвы, і нават людзі з іхнымі заблытанымі радаводамі і лёсамі будуць пасля. Танін – першынец.

Вось пра гэтую выбітную падзею даслоўна:

«І стварыў Бог танінаў вялікіх і ўсякую душу жывую, паўзуноў, якімі варушыцца вада, паводле іх роду, і ўсякага офа крылатага паводле яе роду»[3].

Аматарам рэптылоідаў прапаную аднак не спяшацца. Так, паводле слоўнікаў сучаснага іўрыту «танін» – гэта «кракадзіл». Але даваць веры ўраджэнцу мястэчка Лужкі Эліезеру Бен-Егуду і яго «мованановай» кампаніі да канца нельга. Хаця б таму, што старазапаветныя словы не заўсёды захоўваюць у адноўленым іўрыце колішняе значэнне. Як напрыклад адбылося з «офам крылатым», які з'яўляецца ў Бібліі з танінамі ў абдымачку. Гаворка ідзе пра першую птушку, якая лятае

---

3 Роду 1:21. Тут і далей, калі не пазначана дадаткова, Стары Запавет цытуецца ў перакладзе Паўла Касцюкевіча.

па-над пустэльнымі пакуль што зямнымі абсягамі. Дык вось, гэты «оф» у сучаснай мове, дзякуючы Бен-Егуду і К, азначае банальную «курыцу», «кураціну». Далібог, самавітае ранча падбіраецца ў нас на першых старонках «Кнігі Роду» – кракадзілы і курыцы!

Але Бен-Егуду можна выбачыць. Перад рэаніматарам гутарковага іўрыту пры канцы XIX стагоддзя стаяла задача, каб на мове размаўлялі шараговыя людзі, збольшага сяляне, кібуцнікі, засваяльнікі Зямлі Ізраілю. Не да канца цямнае старажытнае слова «танін» як найлепей пасавала лютаму і пракаветнаму жыхару топкіх палестынскіх балот, якому ў тагачасным іўрыце не было дакладнага імені. і які ж стол без куркі?

Але ж мы адбегліся наўзбоч – вернемся да высвятлення асобы таніна. Дык можа, Бог з ім? Назавём яго адцягненымі тэрмінамі «пачвара» або «гад»... Хіба што паперадзе «танінаў» стаіць на варце іўрыцкі пэўны артыкль «гэй», таму адцягненымі назвамі не абмяжуешся, патрабуецца канкрэтыка.

Іншая версія. Васіль Сёмуха, легендарны перакладчык (мусіць, услед за царкоўнаславянскім перакладам) называе «вялікіх

танінаў» «вялікімі рыбамі». Гэта вялікая недакладнасць. Бо ўжо праз пяць абзацаў (або праз адзін дзень стварэння – каму як зручна вылічваць) Госпад Бог, зрабіўшы мужчыну і жанчыну, запрашае іх валадарыць сярод іншых жывуноў таксама над рыбамі марскімі – «дага» на іўрыце.

«Эх, і гэты без ботаў!» – хочацца ў роспачы выгукнуць услед за героем анекдоту, якога паслалі на Ніл здабыць кракадзілавыя боты.

Дзеля справядлівасці варта заўважыць: на старонках Старога Запавету то сям, то там усплываюць земнаводныя пачвары, якія нам, сучасным людзям, не да канца, мякка кажучы, вядомыя. Як, напрыклад, Левіятан, які «кіпяціць багну, як кацёл, і мора ператварае ў кіпучую мазь; пакідае за сабою светлую сцежку; бездань здаецца сівізнай"[4]. Або невядомая неверагодная Рыбіна, што ў адзін дзень свайго бурлівага жыцця ў педагагічных мэтах узяла і праглынула Ёну, які спрабаваў уцячы ад Божага размеркавання з інстытуту пракрокаў. Ёна, як вядома, пасядзеў у чэраве-ангары Рыбіны і падумаў над

4 Ёва 41:23,24. Пераклад Васіля Сёмухі.

сваімі не надта годнымі паводзінамі ўхіліста. Пасля выйшаў на бераг цэлы і жывы, ужо гатовы прыняць Вярхоўную Волю і прарочыць разбурэнне горада Ніневіі перад жыхарамі. Можа быць, у падзяку за эфектнае выбаўленне і эфектыўнае выхаванне шматлікія перакладчыкі на шматлікія мовы назвалі тую Рыбіну пазітыўным кітом?

А ўслед за імі Скарына, відаць, паддаўшыся станоўчаму іміджу вялізнага сысуна, пераклаў ужо танінаў як «киты великие»?

Аднак унутраная логіка Бібліі сведчыць, што танін – не кіт. Вось жа, у «Кнізе прарока Ісаі» мы чытаем такія словы пра векапомны двубой паміж Гаспадаром Ваярстваў і пачварай-мегатрансформерам:

«У той дзень Госпад пакарае сваім мячом цяжкім, і вялікім, і моцным Левіятана – бягучага змея, і Левіятана – змея пакручастага, і заб'е таніна, які ў моры»[5].

Што ж, памяняем адну частак гэтай «тры ў адным» пачвары. Замест «таніна» паставім «кіта»... Уявіць, як кіт (тое, што ён яшчэ і змей ды Левіятан, пакінем прынамсі

---

5 Ісаі 27:1.

да наступных нагод у спакоі) звіваецца сабе на беражку яшчэ сяк-так магчыма, але, безумоўна, кіт, які бадзёрым трушком бяжыць проста на вас – відовішча не для слабанервовых.

Ёсць і трэцяя тэорыя: «танін» – гэта дыназаўр. Спярша Бог стварыў дыназаўраў, потым мамантаў, а пасля нэандэртальцаў. Паслядоўнікі Дарвіна паціраюць ручкі: «Кніга Роду» імкліва ператвараецца ў здымачную пляцоўку «Парку Юрскага перыяду». Кніга Кніг скочваецца да першага, але другаснага падручніка эвалюцыяністцкай тэорыі. Магія біблійнага генезісу трапляе малпам пад хвост. Кітазмеі канаюць, падрыгваючы спрынтарскімі лапамі.

Руку на сэрца – якія дыназаўры маглі быць нейкія мізэрныя 5778 гадоў назад, калі ствараўся свет паводле Бібліі? У гэты час ужо нават і мамантаў не засталося.

Адным словам, несур'ёзна (ледзьве не напісалася – «ненавукова») ўсё гэта і адначасова патыхае здаваннем моцных крэатывісцкіх пазіцый.

Рызыкну прадаць сваю версію паходжанне таніна – цмачыную.

У цмока моцныя аргументы. У Агадзе, своеасаблівым габрэйскім сіквеле Старога Запавету, таніну ўжо даверылі ахоўваць каштоўныя камяні. Гэтая легенда пра лускавічнага ахоўніка пераплятаецца з больш познімі скандынаўскімі і кельцкімі паданнямі, дзе еўрапейскі дракон стаіць на варце пахаваных скарбаў. А там і да беларускага цмока рукой падаць – таго, які носіць золата свайму гаспадару. Аднак у процівагу легендам пра дракона, што робяць акцэнт на зямной прыродзе пачвары, паданні пра цмока (адсюль і «смактаць»?) яскрава кажуць пра воднае паходжанне. а як нам ужо вядома з «Кнігі Роду», «танінаў вялікіх (...) утварыла вада». Ну, і ўрэшце цмок – не зусім дыназаўр. Ён жывун хутчэй гіпатэтычны, чым узяты жыўцом з дарвінісцкага дапушчэння. Такая версія дазволіць яму захаваць сваё быліннае аблічча.

За цмока я і чыста з меркантыльнай зацікаўленасці. Бо не за гарамі ў «Кнізе Роду», літаральна праз якія два раздзелы, – ганебнае выгнанне Адама і Евы з сацыяльнага жытла на вуліцы Эдэмскай. Выгнанне без майна, у адзежы не па сезоне, выгнанне фак-

тычна на двор. І вось, як мы ведаем з беларускіх казак, у адрозненні ад лютага дракона, цмок – істота прыязная да людзей. І калі ўзяць у рахубу, што Усявышні даў права чалавеку валадарыць над усімі жывунамі ў свеце, дык цалкам верагодна, што наяўны цмок будзе падпарадкоўвацца і ўсяляк спрыяць небаракам Адаму і Еве. Напрыклад, з папаўненнем заняхаенага сямейнага бюджэту – калі тады ўжо будзе цаніцца золата. І хто, як не агнядыхлівы цмок, зоймецца планавым ацяпленнем вышпурнутай на холад з кандыцыяванага раю парачкі, нашых наўпраставых продкаў?

## «Жыроўка» для Адама і Евы

### 1. Каб ты плаціў 100% «камуналкі»!

Сацыяльнае жытло на вуліцы Эдэмскай найбольш нагадвала ўтульны катэджык у прыватным сектары. Пабудаваны як для сябе. Сцены з шчыльнага шэрагу дрэваў, яны ж – раскошны пладовы сад. У аздобе інтэр'еру зіхцяць крышталь і камень онікс. Ужо

падведзеныя камунікацыі – «і рака выцякала з Эдэну каб паіць сад»[6].

Цэнтральнае ацяпленне таксама не падкачала – Адам Бацькавіч і Ева Адамаўна круглы год гойсаюць па райскіх дзялках абсалютна голыя. Больш за тое: на запаветных сотках дзейнічае не толькі круглагадовае ацяпленне, а і кругласуткавае кандыцыянаванне. Біблія паведамляе, што нават сам Творца раз-пораз цешыўся выгодамі цывілізацыі: «… Які хадзіў па раі падчас дзённага ветру». Хто ведае, што такое субтрапічныя краіны, пацвердзіць: ніякай прахалоды там і знаку няма, палёгка наступае толькі позна вечарам (калі ўвогуле наступае), таму пачасту адзіны паратунак – магутны кандыцыянер. Праўда, насцярожвае адсутнасць даху над галавой. Але гэтая, здавалася б, нявыкрутка, кампенсуецца інавацыйнай тэхналогіяй, нябесным ноў-хаў – Бог Вяршыняў проста адмяніў ападкі. І наастачу Адаму дазваляецца прапісаць на жылплошчы яшчэ аднаго чалавека. Адным словам, рай.

6 Роду 2:10. Тут і далей у гэтым раздзеле «Кніга Роду» цытуецца ў працоўным перакладзе групы Ірыны Дубянецкай.

Колькі ж адказны кватэранаймальнік плаціць за гэтыя выгоды? У эдэмскай жыроўцы, якой ёсць фактычна ўвесь другі раздзел Кнігі Роду, над усімі графамі выдаткаў лунае нябачнае паведамленне, што сто адсоткаў жыллёва-камунальных паслуг пакрывае нябеснае гаспадарства. Калі ж казаць больш прадметна, дык за свае даброты Госпад патрабуе ў першых людзей толькі аднаго – не лезці ў палітыку:

«І загадаў Госпад Бог чалавеку, кажучы: з кожнага дрэва ў садзе ўдосталь ты будзеш есці, але з дрэва веды дабра і зла не еш з яго; бо ў дзень, калі ты з'ясі яго, смерцю памрэш».

У абмен на прыемнасць мець «усё ўключана» Бог хоча вызначаць за людзей маральныя нормы і пісаць законы (а пагатоў уводзіць забароны).

Далей на далей, ва ўсёй гэтай сістэме жыллёва-грамадскіх узаемінаў з'яўляецца трэці бок – спакуслівая апазіцыя ў асобе Змея. Змей таксама прэтэндуе ўладарыць над думкамі і душамі людзей, а таму няблага разумее схаваныя памкненні і палітычны манёўр свайго нябеснага апанента. Усёмагутны яўна блефаваў, калі сказаў Адаму, што

скаштаваўшы з дрэва, той імгненна памрэ. Палітык Змей ведае: грамадзе без кіраўніка яшчэ сяк-так магчыма, але ж кіраўніку без грамады – аніяк. Не ў інтарэсах Пана Бога звесці Адамава племя пад корань – трэба ж над кімсьці панаваць.

Увогуле кажучы, палітычная праграма, прапанаваная Змеем людзям, – поўная супрацьлегласць тэакратыі. Ён рэкламуе Адаму і Еве ўладу народу і роўнасць:

«…Расплюшчацца вашыя вочы, і будзеце як багі, якія ведаюць дабро і зло».

Колькі працэнтаў камуналкі давядзецца плаціць новаспечаным багам пры новай уладзе – на гэты конт Змей прадбачліва маўчыць.

Што маем? Госпад расцэньвае яблычны бунт Адама і Евы як спробу разгайдаць падмуркі свайго Валадарства. Але ж крымінальнай справы па «несанкцыянаваным каштаванні забароненых пладоў у публічных месцах» не распачынае. Змей меў рацыю – людзі патрэбныя на свабодзе.

Тут вагар Божага ўплыву на натурыстае насельніцтва не крымінальны, а адміністратыўны. Выракшы род чалавечы на зацятую

вайну між поламі, а жанок у дадатак – на роды ў пакутах, угневаны Госпад выганяе маладую сям’ю з сацыяльнага жытла ў неабжыты, поўны калючкавых і васільковых палёў, мікрараён «Захад» (у процівагу ад Эдэму, які лічыцца «на ўсходзе»). У гэтым мікрараёне – суворы камунальны капіталізм. Калі прыслухацца, дык у грозьбе на адрас Адама: «Праклятая глеба праз цябе!» – выразна чуецца: «Каб ты плаціў «камуналку» па поўнай!»

Цікава, што ад Эдэмгейту найменш пацярпеў прафесійны палітык Змей. Бог асудзіў яго да скону глытаць пыл і перасоўвацца на пузе. Але хіба ў райскім садзе Змей рабіў нешта іншае?

**2. Кантракт**

Менавіта пасля выгнанне людзей з раю Госпад саспявае да ідэі кантракту з чалавецтвам. Ён пераканаўся, што кіраванне паводле прынцыпу «спуск загадаў зверху» – як найменш неэфектыўнае. А Ён – не дагматык. Тэрмінова выпрацоўваюцца гнутчэйшыя дамоўленасці.

Іўрыцкае «брыт» перакладаецца на беларускую словам высокага штылю «запавет».

Але сутнасць адносін Бога з людзьмі лепей тлумачыцца больш прыземленымі «дамова» і «кантракт». Ад «запавету» вее безаглядной аднабаковасцю, маўляў, Ён запаветуе, а людзі паслухмяна выконваюць. Тады як у рэчаіснасці, як трапна заўважыў Змей, Валадар Валадароў таксама залежыць ад сваіх падданых.

Так, да людзей патрабаванняў шмат: не лезці ў заканатворчасць, выконваць свецкія і маральныя ўстаноўкі, прысвячаць час багаслужбе і слухаць праз прарокаў новыя загады. Але вось у чым навіна – ва Ўсенароднаабранага перад абраным народам таксама ёсць абавязкі! Іх ужо нельга абмінуць увагай. у доўгім пераліку загадаў і інструкцый, якімі Бог забяспечыў Майсея на гары Сінай, нене дый праступаюць гэтыя абавязкі. Сярод шматстаронкавага пераліку законаў і ўказаў натрапляем на такую прысягу Госпада перад сваім народам:

«Пашлю перад табой шаршнёў, і яны прагоняць ад твайго аблічча эвэйцаў, хананцаў і хэтэйцаў, не праганю іх ад твайго аблічча за адзін год…»[7]

---

7 Выхад 23:28.

Досыць кропкавае такое абяцанне, і тэрміны рэалістычныя – «не за адзін год»… Ажно рупіць дапісаць іншыя пункты гэтай передвыбарчай праграмы – спыніць дэвальвацыю і не павышаць пенсійны ўзрост.

Хай слупы агню, гук трубны, вясёлка ў небе, а таксама ўласнаручны подпіс, выгравіраваны пальцам Божым на камянях, не бянтэжаць. На скрыжалях Запавету, як у звычайным кантракце, улічаныя інтарэсы абодвух бакоў. А парушэнне дамовы цягне за сабою кары не толькі для людзей – нават для Сутнага выпрацаваная сістэма стрымліванняў і процівагаў. Напрыклад, народ Ізраілю можа па вялікім рахунку перадумаць і абраць сабе якога іншага бога.

Якія ж асноўныя абавязкі ў Ягвэ? Той яшчэ клопат на галаве! Ён мусіць і падвышаць дабрабыт насельніцтва, і перадаць у поўнае карыстанне Зямлю Ханаанскую, і бараніць ад больш магутных суседніх дзяржаваў… Трохі пазней, праз дзве тысячы з хвосцікам гадоў, да гэтага спісу далучыцца ўрачыстая клятва не паўтараць патопу.

Добра, кантракт падпісаны. З аднаго боку, людзі ёсць людзі. Часам яны выконва-

юць дамову, але калі рэчаіснасць асабліва дапякае, стараюцца абмінуць умовы кантракту, ухіліцца ад выканання. Робяць сабе залатое цяля, прысабечваюць ахвяраванні, ну і дробязі – крадуць, прагнуць жонку блізкага свайго. Прыгадаем хітруноў кшталту прарока Ёны, які хаваецца ад Вярхоўнага Вока на караблях далёкага плавання.

З другога боку, Бог ёсць Бог. Ён таксама збольшага выконвае кантракт, але часам нервуецца і сваволіць. Яму не па чыне займацца такой драбязой як ухіленні і перакручванні. Ён папросту перапісвае ўмовы. Тут прыгадаем зацюканага Абрагама, якому сказалі прынесці ў ахвяру сына Ісаака, ад чаго сэрца старога раздзіраецца паміж бацькоўскай любоўю і любоўю да Госпада. Потым урэшце Абрагаму літасціва паведамляецца, што дзеля ахвяры Ўсявышняму можна абысціся бараном. А яшчэ пазней у Бібліі высвятляецца, што і быдла для ахвяры паліць не трэба, дастаткова набажэнстваў і дыму пахошчаў.

Такім чынам кантрактная сістэма, мяняючыся і перапісваючыся, перажывае тысячагоддзі, пакуль не падыходзіць новая дамова, змацаваная крывёю і пячаткай з крыжам.

# Нашы людзі ў Ерусаліме

## 1. Ці расла ў Эдэме бульба?

Пісьменннік Мэндэле Мойхер-Сфорым у сваёй кнізе «Вандраванні Беньяміна Трэцяга», апублікаванай у 1878 годзе ў Вільні, некалькі разоў ужыў слова «бульбус». Назваўшы гэтак славуты караняплод, Мойхер-Сфорым прыўнёс у іўрыт, які тады бурліва адраджаўся і актыўна замазваў прабелы, новае-старое слоўца. Яно, мяркуючы з усяго, з’явілася не без уплыву беларускай моўнай стыхіі, што атачала шаноўнага літаратара ў родных Капылі і Слуцку.

Трэба заўважыць, у «бульбуса» моцныя карані. Старагрэцкія. З гэтым словам габрэі былі знаёмыя як найменей паўтары тысячы гадоў – бульбус можна выкапаць сям і там на старонках Талмуду. Праўда, там ён азначаў не бульбу, якую дакалумбавая Еўразія не ведала, а цыбулю.

Нягледзячы на пратэкцыю вядомага літаратара і шыкоўны радавод, у сучасным гутарковым іўрыце «бульбус» не прыжыўся.

Цяпер на рынках і ў супермаркетах Хайфы і Ерусаліму гучыць іншае найменне, прапанаванае менш вядомымі рэаніматарамі іўрыту – «тапуах адама» (даслоўна «яблык зямлі»). Філалагічныя аргументы гэтага слова таксама крэпкія – карані ж спрадвечна-семіцкія (а не старагрэцкія), а абедзве палоўкі словазлучэння «тапуах» (яблык) і «адама» (зямля) з'яўляюцца ўжо ў другім раздзеле біблійнай Кнігі Роду, якая, натуральна, нашмат старажытнейшая за Талмуд.

Аднак пры больш старанным разглядзе слова «тапуах адама» выяўляецца не такім натуральным і старажытным, як здавалася. Бульба ж не апісаная ў эдэмскім садзе ці краіне «на захад ад раю», куды саслалі небараку Адама. Фантазія адмаўляецца маляваць гэтую дзікую карціну: першы чалавек у стаптаных сандалях поўзае па эдэмскіх градах і збірае з райскіх кустоў каларадскага жука. Паводле Бібліі, у раі рос проста «тапуах» – яблык, які прапанаваў Змей Еве, і была проста «адама», зямля, з пылу якой і паўстаў Адам. Злучыць гэтыя палоўкі ў словаспалучэнне здагадаліся тыя, хто ведаў сучасную француз-

кую мову, дзе гэтыя дзве частачкі скамбінавалі ў XVIII стагоддзі ў наватвор «pomme de terre», «яблык зямлі».

## 2. Фабрыка слоў

Жывая мова не заўсёды слухаецца філалогіі. Каб зразумець, чаму габрэі не падпарадкаваліся аўтарытэтнаму літаратару і мовазнаўцу Мойхер-Сфорыму, а прыдумалі іншае, напаўштучнае слова, давядзецца трохі адкінуць наўзбоч звыклы міф пра вырашальную ролю харызматычных асоб у справе адраджэння гутарковай мовы. Праўда палягае ў тым, што іўрыт спрабавалі вярнуць да жыцця перад Эліезерам Бен-Егудам і пасля яго, а ў Еўропе і на Зямлі Ізраілю шчыравала вялікае войска прафесіяналаў, аматараў і проста зацікаўленых самавукаў, якія на старонках газет, кніг або рэфератаў пускалі ў публічны абег новыя словы. І галасы такіх карыфеяў, як Мойхер-Сфорым ці Бен-Егуда не заўсёды ўлічваліся.

Каб зразумець лінгвістычную ліхаманку, якая ахапіла габрэяў канца XIX – першай паловы XX стагоддзя, дастаткова пачытаць

біяграфіі тагачасных вайскоўцаў, грамадскіх дзеячаў ці палітыкаў. Вельмі часта ў канцы будзе невялічкая прыпіска кшталту такой, на якую я натрапіў, чытаючы афіцыйны жыццяпіс аднаго ізраільскага прафсаюзнага лідэра сярэдняй рукі. «Таксама прыдумаў на іўрыце словы “стаж” і “бульдозер”».

І яшчэ такая гісторыя. Аўтар першых дэтэктыўных кніг на іўрыце (і сын збожжавага магната, выхадца з Пружан) Давід Тыдгар прыгадвае ў сваіх мемуарах, як напачатку XX стагоддзя, гуляючыся ў Тэль-Авіве, – той тады толькі будаваўся, – ён малым хлопцам прыдумаў вайсковыя каманды на іўрыце для сваёй хеўры. «Бо мне стала сорамна перад арабскімі і нямецкімі хлопчыкамі, з якімі мы гуляліся ў двары, што ў нас няма сваіх каманд»[8], – піша Давід.

Словы, якіх яшчэ не было ў Бібліі, рабіліся найперш аб’ектам заўзятай дыскусіі. Вось і класік ізраільскай паэзіі, вучань валожынскай ешывы Хаім-Нахман Бялік настойваў, што матылька, які, на жаль, не віўся на ста-

---

8דוד תדהר.בשירות המולדת 1912-1960:
זכרונות, דמויות, תעודות ותמונות. תל אביב : הוצאת ידידים, תשכ"א/1960

ронках Старога Запавету, трэба менаваць на іўрыце «птушкай вінаграднікаў». Цяпер гэтае цверджанне выкліча адно крывую посмешку сучаснага ізраільскага школьніка, які пры выглядзе крылатай кузуркі ўжыве абсалютную прыдумку, наватвор «парпар», што паходзіць ад дзеяслова «легітпарпэр», «пырхаць». Парпар-пырхач-матылёк за гэтыя дзесяцігоддзі стаўся фактам мовы, а «птушка вінаграднікаў» – толькі кніжнай метафарай.

Наагул, даволі цяжка прасачыць, чаму ў сучасным гутарковым іўрыце адны словы прыжыліся, а іншыя так і засталіся пазаштатнымі сінонімамі. Нават на прыкладзе так званых міжнародных словаў складана знайсці прычыну, чаму сучасныя ізраільцы, амаль як мы, толькі з націскам на другім складзе, кажуць «тэлефон», а «кампутар» мянуюць наватворам са старажытнымі каранямі «махшэў» (даслоўна «вылічальнік»).

...Вось жа, «тапуах адама» – не зусім сумленна і з волі выпадку – перамагло «бульбус». Да нашага шчырага расчаравання французска-семіцкае лобі ў іўрыце адолела беларуска-грэцкае. Ад бульбапрапаганды Мэндэле

Мойхера-Сфорыма ў жывым іўрыце замацаваўся толькі прыметнік «бульбусі» – «гузаваты», «падобны да бульбы». Звычайна гэты прыметнік ужываюць, калі кажуць пра форму носа.

### 3. Рэаніматары іўрыту

Нягледзячы на тое, што беларусы ў іўрыцкай бульбяной эпапеі XIX-XX стагоддзяў засталіся з носам, у XXI стагоддзі яны актыўна прыўлашчваюць ізраільскі нацыянальны пантэон. Наважуся сцвердзіць, што на сённяшні дзень ураджэнец мястэчка Лужкі Эліезер Бен-Егуда больш беларускі герой, чым ізраільскі. Кацярына Кібальчыч, арганізатарка «Мова ці кава», самай значнай ініцыятывы па ажыўленні беларускага маўлення ў XXI стагоддзі, у сваім праграмным тэксце «Налівайце каву, а я раскажу вам гісторыю», апелюе менавіта да ізраільскага прыкладу:

«Эліезер Бен-Егуда быў энтузіястам, нават фанатыкам. Ён пераехаў з жонкай у Палестыну (сённяшні Ізраіль). Упершыню стаўшы на бераг гістарычнай радзімы, пачаў размаўляць на іўрыце з кожным напатканым

габрэем: з абменьшчыкам грошай, прадаўцом у краме. І часам яму нават адказвалі на ламанай, але мове».

Людзі, якія культывавалі іўрыт на Зямлі Ізраілю, у вачах сучасных беларусаў паўстаюць тытанамі, апантанымі носьбітамі, тады калі ў сучасным Ізраілі гэта ўслаўленне ўжо, напэўна, пайшло на спад. Бен-Егуда, безумоўна, прысутнічае ў школьных падручніках, а амаль у кожным горадзе адна з цэнтральных вулак абавязкова носіць імя Вялікага Рэаніматара. Але ў масавай свядомасці гэтая постаць прыдбала налёт камічнасці. За цяперашнім светам герой лінгвістычнага цуду паўстае хутчэй у гумарыстычным святле. А часам нават як апантанец, які маніякальна прымушаў атачэнне размаўляць на «адзіна правільнай мове».

Пару гадоў таму ізраільскія экраны абышоў правакацыйны набор скетчаў «Габрэі ідуць!» у адным з іх Эліезер Бен-Егуда заспявае свайго сына Ітамара за разгляданнем эратычнага часопісу. Замест педагагічных вымоваў бацька захоплена пачынае тлумачыць, як будуць называцца інтымныя часткі

на іўрыце, а таксама раіцца з ушчэнт збянтэжаным хлопцам, як іх можна было б назваць больш трапна.

Тут хіба ўсё зразумела: патрэбы ў міфах моўнага адраджэння ў сучасным Ізраілі няма – усе размаўляюць на іўрыце. Але ў Беларусі, дзе прынцыпова іншая сітуацыя, такія постаці вельмі неабходныя. Як заўважыў той жа Мойхер-Сфорым у прадмове да «Беньяміна Трэцяга»:

«Да кожнай былінкі прымацавана па анёлу-ахоўніку, што загадвае ёй “Расці давай у свет божы!”... Дык што ўжо казаць аб шанаваных паночках?! Вакол іх ад рана да рана дык абавязкова віецца натоўп херувімаў, што падбадзёрвае і падсцёбвае, і нашэптвае на вушка наступнае: “Вылазь ты, абібок, з балота!”» [9]

Нягледзячы на моцнае заплечча, складзенае з класікаў-херувімаў ды іхных крылатых цытат, што пырхаюць па-над ізраільцамі, пераносіць у моўным пытанні ўсю вагу

9 מנדל מוכר ספרים. מסעות בנימין השלישי
וסיפורים אחרים. תל אביב : עם עובד, תשס"ז/2009

на гераічны міф не варта. Эліезер Бен-Егуда, Хаім-Нахман Бялік, Мендэле Мойхер-Сфорым зрабілі сваё, але ажывілі мову ўрэшце не столькі іх артыкулы і літаратурныя творы, і нават не ахвярнасць першых носьбітаў. У 1922-м, годзе смерці Бен-Егуды, у Ерусаліме ўсяго толькі некалькі дзясяткаў сем'яў штодзённа дачыняліся на іўрыце, а перспектывы маўлення выглядалі ўсё яшчэ туманна. Працэс пайшоў гадоў праз дзесяць – найперш дзякуючы спрыяльнай гістарычнай сітуацыі, волі грамадства і палітычнаму манёўру.

### 4. Іўрыт нанова

Асноўныя падзеі, якія прывялі да таго, што ў Ізраілі цяпер размаўляюць на іўрыце:

1. 1912 год – заснаванне ў Хайфе (на той час горад належаў Асманскай імперыі) ўніверсітэту «Тэхніён», вялікай політэхнічнай акадэміі. У «Тэхніёне» пасля няпрацяглай сутычкі іўрыт выйграў спаборніцтва ў значна больш пашыраных тады нямецкай і англельскай. Выйграў у асноўным праз тое, што англафілы і германафілы не змаглі да-

мовіцца. Перамагла мова, абсалютна на той час не прыстасаваная для пазначэння катэтаў і выкладання супрамату. З'яўленне такога ВНУ дыктавала тэхнічнай эліце хоцькі-няхоцькі пераходзіць на іўрыт – гуманітарная ж эліта зрабіла тое і без гуманітарнага ўніверсітэту.

2. 1918 год. Абавязковы перавод сельскіх (кібуцных) школ, дзе вучылася большасць габрэйскіх дзяцей, на іўрыт. Бацькі-рэпатрыянты маглі размаўляць сабе на якіх заўгодна мовах, а дзеткі міжсобку ўжо ціўкалі па-іўрыцку, пераносячы мову са школы ў побыт.

3. 1921 год. Прыняцце закону, паводле якога на ўсёй тэрыторыі Зямлі Ізраілю (тады ўжо правінцыі Брытанскай імперыі) іўрыт абвяшчаўся афіцыйнай, абавязковай да ўжытку мовай. Габрэйскія лабісты ў Лондане прапхнулі ў каляніяльны закон абавязковае дубляванне на іўрыт усёй дзяржаўнай брытанскай дакументацыі і справаводства.

4. Ну і, вядома, іўрыту крышачку пашэнціла.

## Зямля калючкі і васілька

### 1. Там добра, дзе нас няма

Дзесяць гадоў таму я настала вярнуўся ў Беларусь.З ізраільскім пашпартам у кішэні я выйшаў на беларускае паветра. За рассоўнымі дзвярыма аэрапорту «Менск-2» расцілалася па шчырасці дык невядомая мне краіна. Усё дарослае жыццё я прабавіў за мяжой.

Праўда, я нарадзіўся тут, хадзіў тут у школу. Але за гэтыя гады патрапляў сюды прыхапкам, раз на два-тры гады, на тыдзень-два, І шмат аб якіх з'явах і зменах быў не ў курсе. і самае галоўнае – цяпер я не ведаў з чаго жыць, куды ісці працаваць. З карысных знаёмстваў у мяне меўся толькі лейтэнант Эпалетаў з Першамайскага РАУС, які мусіў узяць для картатэкі адбіткі пальцаў. Я быў не толькі ўсхваляваны сустрэчай з бацькаўшчынай, але і ўстурбаваны сутыкненнем з пачужэлай рэчаіснасцю.

Мая трывога толькі вырасла, калі ля самага ўваходу ў аэрапорт я ўбачыў велічэзны білборд. На білбордзе, прарэзліва скрыгочучы, змяняліся два плакаты. На першым

красаваўся стылізаваны васілёк і надпіс «Welcome to Belarus!» На другім плакаце, што праступаў праз некалькі секунд, суворы чалавек у будаўнічай касцы папярэджваў: «Праца за мяжой можа стаць рабствам».

Я зусім заняпаў духам. Я глянуў на край зубчаты бору, на статую драўлянага зубра, якая тулілася ля бензакалонкі (музею самалётаў уздоўж шашы тады яшчэ не было). Тут усё было горш, чым я меркаваў.

Мусіць, гэтаксама пачуваўся Адам, калі, выгнаны Госпадам з камфартабельнага раю, упершыню ўбачыў сваё новае месца жыхарства і працы.

Як мы памятаем, перад выгнаннем Вялікі Садаўнічы ўсіх фігурантаў справы аб несанкцыянаванай дэгустацыі як след пракляў. Памагатаму людзей, Змею, цяпер давядзецца поўзаць на пузе і глытаць зямны пыл. Еве згэтуль давядзецца нараджаць у пакутах. Бэсцячы ж Адама, Госпад Бог праклінае яго новай зямлёй. У прыватнасці кажа такое: «у высілку будзеш карміцца з зямлі ва ўсе дні твайго жыцця, калючку і васілёк узгадуе яна табе». Вось так, нароўні з цернямі і адвечнай сельскагаспадарчай тугой, «цвяток радзімы

васілька» паўстаў для першага чалавека (і для мяне таксама ў той момант у аэрапорце) элементам праклёну, зычэннем нядолі і прыгону.

Адкуль жа мне было тады ведаць, што плакат з чалавекам у касцы прызначаны ўвогуле не мне?! Што гэта тыповы прыклад беларускай сацыяльнай рэкламы, пры дапамозе якой міністэрства ўнутраных справаў РБ эмацыйна папераджала суграмадзян, што выязджалі за межы дзяржавы?

**2. Майсей, правадыр гастарбайтараў**

Другі раз сваю неабазнанасць у беларускіх рэаліях я выказаў у сваё самае першае пасля вяртання Дзявятае мая. Ля касцёла Святога Роха, у самым цэнтры Менску, а сёмай ранку я ўбачыў гіганцкі чырвоны сцяг з савецкай сімволікай, які лунаў па-над старой рэтрансляцыйнай вежай. Згледзеўшы сярпасты-малаткасты, як той гіпнатычна трапечацца ў цёплым менскім паветры, я адразу ж стаў назвоньваць знаёмай фотакарэспандэнтцы. Я сказаў ёй, што калі яна хоча атрымаць Пулітцэраўскую прэмію – ці што там у фатографаў прынята атрымліваць – дык хай неадкладна прыязджае ў цэнтр. Маўляў, ней-

кі псіх, відаць, уначы ўскараскаўся на самую вяршаліну тэлевежы і павесіў там кумача.

У гэты ранак фотакарэспандэнтка сядзела ў вёсцы пад Горадняй. Яе бацька разбіраў і смажыў вепручка, а яна рабіла з гэтага сьвяшчэннадзейства фотасесію, мусіць, спрабуючы атрымаць прэмію «Прэс-Фота». Выявілася, што сцяг ужо амаль дзесяць гадоў вешаецца на Дзень Перамогі. І вешае яго не начны псіх, а камунальныя службы. Псіхам яна назвала якраз мяне. Бо калі мне не падабаюцца савецкія сімвалы, я мог яшчэ ўчора проста з'ехаць з гораду, а не бадзяцца па цэнтральных вуліцах, дурачы зрання галаву нармальным людзям, якія ў дадатак занятыя важнай справай.

Відаць, гэтаксама загіпнатызавалі недасведчаных габрэяў матлянні гіганцкай гронкі вінаграду, якую з Абяцанай Зямлі паводле загаду Майсея прывалаклі на жардзіне ажно двое выведнікаў. Бадзячы народ тады стаяў-торкаўся на парозе бацькаўшчыны ля Сінайскіх гор.

Міністэрства ўнутраных справаў РБ мае рацыю – масавы выезд грамадзян за мяжу на заробкі сапраўды можа ператварыцца

ў рабства, як гэта адбылося са старажытнымі габрэямі. Тады Егіпет яшчэ не быў краінай трэцяга свету – якраз зусім наадварот. Аднак у адрозненне ад сучасных гастарбайтарскіх саг з пагонямі на паліцэйскіх калясніцах і шпурляннем гуманітарнай манны, «Выхад» апісвае рух у адваротным кірунку. Кінуўшы-рынуўшы катлы з мясам, не выканаўшы дзённую норму па цаглінах і расчараваўшы фараонавых упраўцаў (якія, як вядома, не толькі пугай каралі, але таксама рэгулярна выплачвалі заробак), габрэйскія заработнікі даюць шчырага дзерака, упрочкі ад наладжанага побыту.

Дык вось, падчас саракагадовай дарогі дадому народ вельмі дэмаралізаваны і не надта верыць у здубавецці пра краіну, якая нібыта сцякае малаком і мёдам. Майсей вырашае паслаць у межы Ханаанскай зямлі выведнікаў-шпіёнаў для агляду, загадваючы ім: «Мацуйцеся і вазьміце ад пладоў гэтай зямлі»[10].

Учынак Майсея з выведнікамі і вінаградам выглядае на замыльванне вачэй – бо калі

10 Лікі 13:21.

гэта зямля абяцаная Богам, дык навошта яе правяраць? І нашто ў якасці рэчдоку кантрабандай цягнуць праз увесь край цяжэзную гронку (і яшчэ мех гранатавых яблык і смокваў у даважак), калі ўсё можна патлумачыць на словах?

Гордыя сабой, на прэс-канферэнцыі дванаццаць сяброў Майсея дэманстравалі рэчдок усяму зачараванаму народу, – маўляў, Ханаан сцякае малаком і мёдам. Усё гэта тхнула прапагандысцкай акцыяй, якая не толькі адраджала дух народу, пераконваючы яго, што іх будучая радзіма «вельмі, вельмі добрая», але таксама адцягвала ўвагу ад рэальнай расстаноўкі сіл. Шпіёнская выправа дванаццаці менш за ўсё нагадвала сакрэтную аперацыю. Добры гандаль – імёны агентаў ведае шырокая грамадскасць! На 13-ты раздзел кнігі «Лікі», у якім пададзеныя звесткі пра ўсю дванаццатку, яўна просіцца грыф «абсалютна сакрэтна».

Рэчаіснасць выявілася складанейшай і стракацейшай. Як напраўду, дык берагі Ханаану не сцякалі малаком і мёдам. Наступнік Майсея, Егошуа Бен-Нун (Ісус Навін) хутка прывёў габрэяў не толькі да абяцанай зямлі,

але таксама да прытомнасці. Пры дапамозе яшчэ адной опер-групы шпіёнаў на пальцах патлумачыў, што Ханаан поўніцца не толькі пладамі зямлі, але і шматлікімі іншымі плямёнамі, «людзьмі моцнымі і рослымі». У адсутнасць гаспадароў, што запрацаваліся былі за мяжой, плямёны паспелі выгодна рассяліцца па ўсёй тэрыторыі. І з тымі плямёнамі, як высветлілі габрэі, трэба змагацца ці дамаўляцца, або – як ужо потым мудра пастанавілі старэйшыны – ужываць абедзве тактыкі адначасова.

Наступная разведвальная выправа ўжо была арганізаваная як след. Вось жа, пра сакрэтную місію двух шпіёнаў, якіх паслаў у варожы Ерыхон наступнік Майсея, Егошуа Бен-Нун, шараговаму чытачу Бібліі ўжо невядома абсалютна нічога (апрача іхняй колькасці, натуральна).

**3. На заканчэнне**

На зямлі калючкі і васілька ў Адама адкрылася другое дыханне. Не зараюеш, канечне, але жыць можна. У яго нарадзіліся сыны і ўнукі, наладзілася свая гаспадарка. Калі Каін забіў Авэля, дык Госпад на сто трыцца-

тым годзе жыцця спагадліва даў Адаму наўзамен яшчэ аднаго сына, Сіфа, які цешыў састарэлага бацьку сваёй падобнасцю да сябе. Мы дакладна ведаем, што нават пасля ўсіх пертурбацый і сямейных трагедый, Ева спакушала Адама яшчэ не раз – бо «спарадзіў ён сыноў і дачок»[11]. Памёр Адам на дзевяцьсот трыццаць першым годзе жыцця. Трэба меркаваць, дома, у сваёй пасцелі.

## На «маліне» ля ерыхонскай мяжы

*– Шлёма, а колькі вы мне, прыстойнаму кантрабандысту, дадзіце за сваю Дору пасагу?*
*– Які пасаг? Нашто ёй пасаг?!*
*Яна сама золата!*

Сяргей Пясецкі,
«Каханак Вялікай Мядзведзіцы»

**1. Першая ахованая мяжа...**

Самы першы памежны КПП у гісторыя чалавецтва паўстаў у выніку канфлікту. Яго на мяжы з раем адбудаваў абражаны Госпад:

11 Роду 5:4.

«Паставіў на ўсходзе ад Эдэмскага сада херувіма і палымяны меч, які паварочваўся, ахоўваць дарогу да дрэва жыцця»[12].

Агнём і мячом Госпад адасобіўся ад людзей. Пасля гісторыі з Дрэвам Веды сыны чалавечыя могуць, крый Божа, пратачыцца назад у Эдэмскі сад і скаштаваць таксама з Дрэва Жыцця. Дрэва сярод іншых выгодаў дорыць неўміручасць, чыста боскую якасць.

Херувім – самы засакрэчаны баец у гісторыі памежных войскаў. Біблія толкам не раскрывае яго знешняга выгляду. Паводле добрай еўрапейскай традыцыі, афармляючы Чацвёртую кнігу Царстваў, Скарына высунуў сваю графічную версію гэтых нябесных ахоўнікаў: з доўгімі валасамі і крыламі. Што, яны таксама выконваюць функцыі беспілотнікаў? Больш за тое няясна, херувім – гэта адна істота ці іх некалькі? Скарына намаляваў дваіх. Мэндэле Мойхер-Сфорым, як мы бачылі вышэй, мераў нябесных істот натоўпамі. Канчатак «-ім» у іўрыце ўжо сам па сабе азначае множны лік (адзіночны лік адпаведна «херуб», ці калі больш дакладней – «кэруб»). Але часам з херувімамі і серафімамі

12 Роду 3:24.

суседнія словы абыходзяцца як з назоўнікам адзіночнага ліку. Такая падвойнасць мусіць паказаць шматвымерную прыроду гэтых нябесных істотаў. Таму задаволімся больш абцякальным азначэннем – «вайсковая адзінка «херувім».

**2 ...і пашпартны кантроль**

Аддаючы ў акенца пашпарт на «Каменным Логу» ці «Варшаўскім мосце» і нажахана ўглядаючыся ў высечаныя з камення твары нашых і еўразвязаўскіх памежнікаў, заўсёды варта супакойваць сябе: раней было горш. Нашмат-нашмат.

Адзін з першых пашпартных кантроляў на мяжы ўвёў старазапаветны суддзя Іфтах. На пераправе праз Ярдан замест прад'яўлення пасведчанняў ці здаванне біямэтрычных адбіткаў галаадскія памежнікі прасілі пахаджан вымавіць іўрыцкае слова «шыбалет». Рэч у тым, што варожы клан яфрэмцаў праз адсутнасць «ш» у сваёй гаворцы вымаўляў гэтае слова як «сыбалет». Сыканне замест шыпення азначала не толькі забарону на ўезд, але і смяротнае пакаранне на месцы.

Ужо тады памежнае ведамства прадэманстравала не абы-якую выхітраванасць.

Каб не выклікаць падазрэнняў, памылку выяўлялі ў слове, якое мае дачыненне да памежных працэдур. «Шыбалет» азначае «пераправу».

Ці бралі ў старазапаветныя часы памежнікі і мытнікі хабар? Біблія не выказваецца на гэты конт наўпрост, але дакладна вядома, што памер мыта ды іншых уездных збораў задавальняў не ўсіх. Вось з царом пасярэдняй дзяржавы Эдом вядзе перамовы Майсей. З Егіпту ў Ханаан праз эдомскі калідор ён хоча правесці невялічкую групку гастарбайтараў (шэсцьсот тысяч мужчын, не лічачы жанчын і дзяцей), прыдбаўшы транзітную візу за паўцаны:

«Сказалі яму (цару Эдомскаму) сыны Ізраілю: пойдзем трактам, і калі будзем піць тваю ваду, мы і быдла наша, дык будзем плаціць; але нічога не каштуе, калі толькі нагамі пойдзем»[13].

Эдомскі цар трымаўся іншага меркавання стасоўна транзітных коштаў для таптуноў ягонай зямлі. Дамовіцца не атрымалася – разгарэўся непрыемны канфлікт.

---

13 Лікі 20:19.

### 3. Як у Сяргея Пясецкага

Ханаанская мяжа майсеевых часоў вельмі нагадвае паўпразрыстую польска-бэясэсэраўскую мяжу 1920-х у раёне мястэчка Ракаў. Усё роўна, як у рамане Сяргея Пясецкага «Каханак Вялікай Мядзведзіцы»: тут і незаконны транзіт гастарбайтараў, і кантрабанда (згадаем вываз вінаграду і яблык дванаццацю выведнікамі Майсея), і сюд-туднае гойсанне шпіёнаў і дыверсантаў Егошуа Бен-Нуна. І шум пагоні з удзелам памежнікаў, і панадны бляск чаўнакоўскіх «малін»-хованак... У Бібліі нават ужыты ўлюбёны прыём Пясецкага: зоркамі ханаанскага памежжа робяцца ўладальнікі несамавітых прафесій, прыўкрасныя маргіналы, сярод якіх зырка зіхціць вобраз блудніцы Рахаў.

Гісторыя такая. Перад вайсковым наступам на Ерыхон павадыр габрэяў Егошуа Бен-Нун пасылае двух шпіёнаў аблазіць горад. Каб не выклікаць падазрэнняў, шпіёны спыняюцца ў блудніцы, чыя кватэрка знаходзіцца ўнутры гарадскіх муроў. Гэта зручна – можна вылазіць за межы Ерыхона нават калі гарадская брама замкнутая. Ну, і хто падумае нешта благое пра камандзіровачных, якія

першай справай у замежным горадзе пайшлі ў бардэль?

Але контрвыведка працуе эфектыўна, і салдаты ерыхонскага цара завітваюць да Рахаў з ператрусам. Шпіёнам удаецца даць драла ў горы на захад. Вынаходлівая Рахаў пасылае царскіх салдат у процілеглым кірунку – на ўсход.

Біблія малюе Рахаў («рахаў» азначае «шырокі») жанчынай не толькі шырокай душы, але і кругагляду. На кухонных пасядзелках з двума шпіёнамі Рахаў дэманструе добрую абазнанасць у асновах іншаземнай касмагоніі, рэвалюцыйных на той час прынцыпах татальнага адзінабожжа: «Бо Госпад Бог на небе ўгары і на зямлі ўнізе»[14]. Яна цвяроза ацэньвае расстаноўку палітычных і вайсковых сіл на памежнай Ерыхоншчыне: «Я ведаю, што Госпад аддаў гэтую зямлю вам»[15].

У падзяку за паратунак заваёўнікі захавалі Рахаў жыццё і дазволілі застацца ў Ерыхоне. Яе нашчадкі праз колькі пакаленняў нават уплывалі на палітыку ерусалімскіх цароў.

---

14 Ісуса Навіна 2:11.
15 Ісуса Навіна 2:9.

А праз стагоддзі прыязнасць іншаземкі Рахаў стала важкім аргументам у спрэчцы пра змяшаныя шлюбы. Калі пасля Вавілонскага палону прарок Нехемія абвесціў святую вайну жонкам-негабрэйкам, дык яго апаненты, прыхільнікі ліберальных каштоўнасцяў, апелявалі да выпадку з Рахаў. Маўляў, такая лагодная і самаадданая жанчына, як Рахаў, – добры прыклад таго, што мужчыны-габрэі могуць брацца шлюбам з іншаземкамі.

Пасля перамогі габрэяў над ерыхонскім валадаром гасцінная «маліна» Рахаў, трэба меркаваць, не ацалела. Абрынулася разам з гарадскім мурам пад напорам гукаў сакрэтнай зброі Егошуа Бен-Нуна – «ерыхонскіх труб».

Дарэчы, любае героям Пясецкага слова «маліна» паходзіць не ад ягады, а ад старазапаветнага кораня «л-і-н», «начаваць». Першапачаткова слова «маліна» (ў заходнебеларускім вымаўленні «мэліна») азначала амаль тое самае: «начлег, заезны дом» – праўда, без крымінальнага налёту. У ХХ стагоддзі праз чацвёртую дзяржаўную мову даваеннай Беларусі, ідыш, «маліну» кантрабандай занесла ў слэнг ракаўскіх тарбэчнікаў і фартавікоў.

## Прарочыца Дэвора, народны дэпутат

### 1. Бібліятэрапія для беларускіх выбараў

Часам падаецца, што такое магчыма толькі ў Беларусі. Дэмакратычна выбранага парламенту дзесяцігоддзямі як не было, так і няма, а дэпутаты-дэмакраты (ды яшчэ нібыта дэмакратычным шляхам абраныя), дзівіся, часам пратачаюцца ў парламент.

Каб змагчы гэты дысананс, можна, натуральна, ухіліцца ў грэх канспіралогіі, абвінаваціўшы ўсю ліберальную зборню ў татальным запрадажніцтве. Або паспрабаваць прыкрыцца еўрапейскім досведам, прыгадаўшы англійскую гісторыю, дзе галоўнай было, які выбрык у дачыненні да манархіі выкіне парламент (і які галавакрутны захад зробіць у адказ суверэн). Аднак дазвольце сёння прыкласці да беларускіх электаральных ран бібліятэрапію – своеасаблівы гатунак інтэлектуальнага аўтатрэнінга, чыю асноўную мантру сфармуляваў яшчэ меркаваны аўтар Кнігі Эклезіяста, цар Саламон:

«Што было, тое і будзе; што рабілася, тое і рабіцьмецца, і нічога новага пад сонцам няма. Бывае такое, пра што людзі кажуць:

«Дзівіся, вось гэта новае»; але яно ўжо было спрадвеку, да нас»[16].

Адгарнуўшы біблійную Кнігу Суддзяў, можна пабачыць, што ў гісторыі чалавецтва ўжо быў момант, калі на першы план выйшлі парламентарыі, якія працавалі без парламенту.

**2. У тыя дні, калі кіравалі суддзі**

Першыя народныя абраннікі ў гісторыі чалавецтва паводле Бібліі з'явіліся пасля ўварвання габрэйскага народу ў абяцаную зямлю. Мэты, пастаўленыя вялікімі стырнавымі, Майсеем і Егошуа Бен-Нунам, дасягнутыя. Народ выведзены з егіпецкай няволі і шчасліва прыведзены на ханаанскае прыволле. Але для каго «забраны край», а для каго – «родныя палестыны». Выбухае процістаянне з філістыйцамі і ханаанцамі, якія калісь засялілі зямлю ў адсутнасць сыноў Ізраілю.

Перавага на варожым баку. Ханаанцы захавалі за сабой большасць гарадоў, філістыйцы – міжземнаморскія порты, габрэі ж атабарыліся ў палях і пячорах. Больш за тое: ханаанцы маюць перавагу ў ваенных тэхна-

---

16 Эклезіяст 1:9,10. Пераклад Васіля Сёмухі.

логіях. Яны валодаюць тагачаснымі танкамі – калясніцамі і сакрэтам апрацоўкі жалеза.

Габрэйскі народ, не злучаны цяпер адзінай мэтай, сутыкнуўся з працяглым супрацьстаяннем, раскалоўшыся на дванаццаць кален-кланаў, якія дзейнічаюць хутчэй як вайсковыя хаўруснікі, чым як адзінае згуртаванае войска. Улада разгрупаваная. Дзеля каардынацыі дзеянняў паміж каленамі і пакліканыя суддзі, якіх аднагасова магло быць некалькі.

Абіраліся суддзі заўжды на пэўны тэрмін – падчас крызісу, заступаючы на своеасаблівую дэпутацкую сесію. Па заканчэнні крызісу суддзяў распускалі па дамах.

Суддзі не займаліся заканатворчасцю. Народ ужо атрымаў Майсееву канстытуцыю на гары Сінай – дух і літару закону святарская каста трымае на жэстачайшым кантролі. Свецкім суддзям застаецца кіраванне і каардынацыя дзеянняў агульным войскам, а таксама развязванне цяжбаў паміж людзьмі або каленамі.

Біблія замоўчвае, як дакладна абраны народ абіраў сваіх дэпутатаў, але вядома, што суддзі вылучаліся з асяроддзя кланавых

павадыроў, падтрымліваліся арыстакратыяй і абавязкова зацвярджаліся ў найвышэйшай інстанцыі Валадаром Валадароў праз ягоных моўцаў на зямлі.

Як старазапаветныя дэпутаты заваёўвалі прыхільнасць Ягвэ і трымалі галасы выбарцаў? Бадай, самыя вядомыя суддзі – зарочнік Самсон і прарочыца Дэвора – прапануюць дзве адрозныя стратэгіі, як паводзіцца дэпутату ў адсутнасць парламенту.

### 3. Суддзя Самсон

Суддзя Самсон – бунтар, пазасістэмны герой. Сваволіць, парушае правілы палітычнай гульні. Не ўступае ў кланавыя хаўрусы. Выпраўляецца куды лічыць належным – нават завітвае па прыватных справах у варожыя філістыйскія гарады. Выглядае як лічыць належным – напрыклад, трымаецца зароку ніколі не стрыгчыся.

Для Самсона ўсе выклікі – асабістыя, нават вайна. Калі яму не дазволілі ажаніцца з пэўнай жанчынай, ён разгортвае цэлую ваенную кампанію апраўданнем: «Як яны са мной зрабілі, гэтаксама я зрабіў з імі»[17],

17 Суддзяў 15:11.

то бок, «мама, яны першыя пачалі!» Самсон атрымаў свой суддзёўскі мандат пры дапамозе аслюковай сківіцы, якой забіў у бойцы «тысячу ворагаў». Чалавек дзікага нораву – уласнаруч разадраў ільвіную пашчу і завязаў разам хвасты трыццаці лісам (ён яўна не прадстаўнік партыі зялёных!) Вонкавых прыстойнасцяў не трымаецца – насуперак усім законам і табу абірае сабе жонак і каханак (успомнім сцярвозную Далілу) сярод іншаземак. Так, ён – вораг філістыйцаў, але ж не філістыек!

Гэтая непасрэднасць, спантаннасць і некіраванасць шмат каму далася ў знакі, а тлумачы нават пагаворваюць, што і Вярхоўны не ў захапленні. Але ўражвае эфектыўнасць Самсона ў вайсковых аперацыях – і яго трымаюць суддзём цэлых дваццаць гадоў.

**4. Суддзя Дэвора**

Прарочыца Дэвора – поўная процілегласць Самсону. Яна – рафінаваная функцыянерка, добра абазнаная ў законах вялікай палітыкі. Бо што робіць дасведчаны палітык, калі на ягоную краіну коціцца смяротная на-

вала? Вядома – бярэ ўвесь цяжар адказнасці і ўзвальвае яго на плечы калег па партыі! Калі на хаўрус каленаў ідзе ханаанскі вайскаводца Сісра, дык Дэвора выклікае суддзю Барака ў свой офіс пад пальмай і загадае апошняму імем Госпада аднаасобна ўзначаліць войска. Загадваць ад свайго імя не насмельваецца, бо Барак роўны ёй паводле пасады.

Але суддзя Барак таксама не шыла з перцам. Паміж ім і суддзёй Дэворай разгараецца моўны двубой, – можа быць, першая ў гісторыі занатаваная звада аднапартыйцаў. Мова Бібліі абрывістая, поўная пякучых недагавораў, але нават праз тысячагоддзі ў паўзах паміж словаў да нас далятае засяроджанае сапенне і павойкванне. Гэта Дэвора і Барак перакідваюцца адказнасцю, не раўнуючы, гарачай бульбінай:

«Барак сказаў ёй: калі ты пойдзеш са мною, пайду, а калі не пойдзеш са мною, не пайду. Яна сказала: пайсці пайду з табою, толькі не табе ўжо будзе слава на гэтай дарозе, па якой ты ідзеш, а ў рукі жанчыне аддасць Госпад Сісру»[18].

18 Суддзяў 4:9.

У апошняй фразе Дэвора прадбачліва намякае, што ў спрэс мужчынскім свеце жанчына на чале войска-пераможцы – падзея неардынарная, заўважная, і плады перамогі дастануцца хутчэй за ўсё ёй.

Так і сталася. Барак, можа, і стаяў на чале войска, і першы ўварваўся ў варожы стан ды ўбачыў труп Сісры, але ў вяках будуць памятаць Дэвору і яе слаўную перамогу. Суддзя ж Барак застаецца паўзабытым дэпутатам ад партыі «Адзіны Ізраіль».

А можа, гэта і не прадказанне было, а цвярозы разлік, і Дэвора перагуляла б Барака пры любым раскладзе? Бо калі б сталася параза, дык хто ў патрыярхальным грамадстве стаў бы вініць у ваенным правале жанчыну?

### 5. Я Госпаду спяваю, я граю Богу...

Увесь пяты раздзел кнігі Суддзяў – ваяўнічы гімн, укладзены Дэворай з нагоды перамогі над ханаанцамі. Гэта панарамная кінакарціна з гарой варожых трупаў і зіхценнем даспехаў трыумфанткі. Гімн, расквечаны ўсімі фарбамі ўсходняга славаслоўя можа па-

дасца серэнадай самазакаханага паўліна, ці дакладней, самазакаханай павы:

«З нябёсаў ваявалі зоркі, са сваіх шляхоў ваявалі з Сісрам. Ручай Кішон падхапіў іх (целы цароў ханаанскіх), ручай Кедумім, ручай Кішон. Тапчы, мая душа, моц!»[19]

Аднак гэта на першы пагляд. Пакрысе ў маляўнічых арабесках угадваецца пісьмова складзеная праграма. З цягам песні Дэвора не забываецца адвесіць трохі лёстак свайму паплечніку, небараку Бараку, (мімаходны рэверанс у бок кіроўнай партыі), потым – выславіць вычын кенейкі Яэль, «блаславённай сярод жанчын», якая малатком і калком ад намёта адважна забіла вайскавода Сісру (Увага! Жаночыя галасы). Заканцоўвае Дэвора абавязковым хваласпевам на адрас Ягвэ, падкрэсліўшы сваю асабістую лаяльнасць да Ягонай вярхоўнай волі. Карацей кажучы, гэтая рытмізаваная пракламацыя можа азначаць толькі адно: прарочыца Дэвора зазбіралася на другі дэпутацкі тэрмін.

19 Суддзяў 5:21,22.

## Калі дысідэнты былі прэзідэнтамі

*Не люблю біблійных прарокаў – вечна яны
правільна ўсё прарочаць! Калі добра падумаць,
дык заўсёды ж можна, пішучы гадкоў
на дзвесце пазней, накрамзоліць сваё прароцтва
задні́м чыслом. Іншая справа прарок Ёна –
прарочыў будучае разбурэнне Ніневіі,
якое потым не спраўдзілася.
Значыцца, прарочыў сам, сумленна – як мог.*

Адэд Ліфшыц,
прафесар гісторыі Тэль-Авіўскага ўніверсітэту

...Тое былі дзіўныя выбары. Падчас выбарчай кампаніі, пакінуўшы двух сыноў «на гаспадарцы», кіраўнік краіны выправіўся ў турнэ па правінцыі. Аб дэмакратыі ў дзяржаве не чулася ані найменшага зыку. Таму імітаваць свабоднае волевыяўленне ці ўдаваць усенародную падтрымку патрэбы не было ніякае. Краіна стаілася, бы мыш пад венікам. Выбарнік у спісах значыўся ўсяго толькі адзін, і ўсе выдатна ведалі ягонае імя. Якіх іншых прэтэндэнтаў на вышэйшую пасаду не назіралася.

Каго ж тады абіраў кіраўнік краіны? Наступніка? Каманду? Ды, быццам, не. Хай сабе немалады чалавек, але поўны сіл ды імпэту, кіраўнік нікуды сыходзіць не збіраўся. Пагатоў пад крылейкам гадуюцца прыгаданыя вышэй сыны-спадкаемцы.

Што ж тады, хай яго няхай кіраўніка гэтага, адбываецца?!

Адказ, пэўна, заблытае яшчэ больш, чым пытанне.

Падчас тых дзіўных выбараў кіраўнік краіны выбіраў сабе законнага канкурэнта. Вярхоўны святар, прарок Гасподні Самуіл шукаў Ізраілю будучага цара...

**1. Не было цара ў Ізраілі**

«Прарок Гасподні» – гэты парафраз не ганаровае званне. У даманархічным Ізраілі «прарок Гасподні» – абсалютна акрэсленая назва пасады кіраўніка тэакратычнай дзяржавы, старшыні касты, вярхоўнага начальніка святароў.

Святароў, падкрэслім, якія не толькі кажуць як узносіць модлы, але і правамоцна загадваюць народу, колькі плаціць падаткаў і супраць каго ваяваць.

Тыя часы ўлада грунтавалася на духоўным аўтарытэце, але мешаніна ідэалагічнага з дынастычным (як тут не прыгадаць паўночнакарэйскія ідэі «чучхе» ці клан Кастра на Кубе?) прывяла да таго, што сыны прарока Самуіла меліся ўспадкаваць бацькаву пасаду. Так, як было ў часы Майсея: з аднаго боку той набыў неверагодны духоўны аўтарытэт, але з другога нікога не бянтэжыла, (уключаючы яго самога), што наступнікам маецца стаць родны брат Аарон (і так бы, пэўна, здарылася, калі б Аарон не загінуў у пустэльні).

Тут варта зрабіць заўвагу, што ў адрозненне ад Аарона, двое сыноў Самуіла, апынуўшыся на высокіх пасадах, аўтарытэту не здабылі. Яны – скарумпаваныя:

«А яго сыны не хадзілі яго шляхам, ухіляліся ў прагавітасць, бралі хабар і перакручвалі суд»[20].

Праблема святарскага рэжыму часоў прарока Самуіла не толькі карупцыя, якая точыць нікому не падкантрольныя святарскія вярхі. Самае пякучае пытанне – вайна.

20 Першая Царстваў 8:3.

Уяўнілася філістыйская пагроза, на якую святары, звыклыя мецць справу пераважна з нутраным ворагам, не высунулі годнага адказу. Вайна напоўніцу выявіла неэфектыўнасць, несучаснасць іх улады.

І вось на тле гэтага выкліку народ у адзін голас просіць (пакуль толькі просіць!) у Самуіла цара:

«І сабраліся ўсе старэйшыны Ізраілю, і прыйшлі да Самуіла ў Раму, і сказалі яму: вось ты састарыўся, а твае сыны не ходзяць тваімі шляхамі; зараз пастаў нам цара, каб ён судзіў нас, як у іншых народаў»[21].

Акрамя дакучлівых сыноў абраны народ хоча пазбыцца абранасці, заняць пачэсны пасад між звычайнымі народамі. Ізраільцы саспелі, каб іх справы вяліся гэтаксама, як у паспяховых суседзяў-язычнікаў. з зямным, свецкім царом, што пануе і дае ўцямныя загады. З прагрэсіўнай і эфектыўнай адміністрацыяй, калі прыняцце дзяржаўных рашэнняў і збор падаткаў прадыктаваныя палітычнай мэтазгоднасцю, а не заблытанымі тэалагічнымі пас'янсамі.

21 Першая Царстваў 8:4.

Самуіл, вельмі засмучаны гэтай петыцыяй, вінаваціць супляменнікаў у адступніцтве ад Бога. Перад змушанымі выбарамі прарок робіць апошнюю спробу запаліць народ палымянай антыманархічнай прамовай. Але з яго вуснаў вылятае нешта непераканаўчае і каструбаватае пра шкоднасць палітычных рэформаў, пра дзікі нораў будучага цара, які, маўляў, абкладзе гаротны люд дзесяцінай ды будзе гнаць без часу ў прыгон. Але народ, які, не разгінаючы спіны, працуе на палях святароў і ўжо здавён-даўна плаціць дзесяціну святарству, настойвае: толькі цар!

**2. Прэм'ер-міністар без партфелю**

Еўрапейская традыцыя разглядае прарока Самуіла як бацьку канфлікту паміж царквой і дзяржавай. Як таго, хто запачаткаваў падвойнасць свецкай і рэлігійнай уладаў, падвойнасць, якая сям-там доўжыцца аж да сёння. Ужо ў Сярэднявеччы Рымскі Папа заўзята змагаўся з еўрапейскімі імператарамі. Ерархі адлучалі манархаў ад царквы, высоўваючы аргументы, маўляў, у старазапаветным трыадзінстве «Усявышні-Святар-Народ» царам і каралям, па вялікім рахунку,

месца няма. Манархі, у сваю чаргу, рэквізавалі царкоўнае майно, даводзячы, што пра ніякага Папу і кардыналаў у Бібліі гаворкі не вялося (а цары і каралі: Саул, Давід і Саламон, – якраз прысутнічалі). А вось англійскі кароль Генрык VIII Сіняя Барада развязаў гэты канфлікт у 1560 годзе надзвычай элегантным спосабам. Парваўшы з Рымскім Папам, ён абвясціў незалежную ад Рыма англіканскую царкву і прызначыў сябе ейным кіраўніком.

Аднак праўда палягае ў тым, што Самуіл уладай дзяліцца зусім не хацеў і канкурэнта сабе не гадаваў. Народ прагнуў свецкага цара – памуляўшыся, Самуіл яго народу даў. Але пры гэтым прарок ужыў палітычны хітрык. Зрабіў так, як ужо ў XX стагоддзі паступалі самыя несымпатычныя рэжымы Афрыкі, Лацінскай Амерыкі, Азіі (так-так, і Еўропы!) Рэжымы, дзе ёсць нібыта-прэзідэнт і нібыта-парламент, і нібыта-вярхоўны суд, але ўсё гэта толькі дзеля прыліку. Фасадная манархія, кардонны муляж, за якім хавае сваю цмачыную тушу самая звычайная таталітарыя.

Гэткія, скажам шчыра, прахіньдзейскія паводзіны, вынікаюць з самой сутнасці Самуіла. у адрозненне ад непахіснага Майсея, Самуіл больш палітык, чым духоўны павадыр. Яму абыходзяць не толькі праблемы народа, але таксама свая кар'ера і каставая карысць. Прыгадаем тую гісторыю з бітвай у Міхмасе, калі маленькае войска Ізраілю мела перавагу нечаканасці і патрабавала імгнення атакаваць полчышчы філістыйцаў. Але нават перад абліччам смяротнай для бацькаўшчыны пагрозы Самуіл да апошняга моманту адцягваў абавязковы перад любой бітвай рытуал ахвярапрынашэння. Гэтак шантажуючы кволага цара і выгадваючы гешэфты для сваёй касты.

Адным словам, прабеглы палітык Самуіл даў ізраільскаму народу пустышку. Схітрыўшы, падмяніў паняцці, замыліў вочы. Сувора аплятаючы няспынным кантролем і бязлітасна абцінаючы функцыі, прызначыў слабога цара. Яго імя – Саул. Узваліў на новаспечанага манарха ўвесь цяжар вайны, але наўзамен загрэб рэальныя вагары ўплыву.

Хай слова «цар» нас не бянтэжыць. Самуіл выбраў сабе не наступніка і не канку-

рэнта, а антыкрызіснага менеджэра. Потым гэтага менеджэра Самуіл надзяліў намінальнымі паўнамоцтвамі манарха, выпусціў на лінію фронта, каб у выпадку правалу поўным правам спіхнуць віну на няўдаху. На цяперашнія, наскія рэаліі – кіраўнік аўтарытарнай дзяржавы прызначае паслухмянага, працавітага і пазбаўленага палітычных амбіцый прэм'ер-міністра.

### 3. Мяцеж менеджэраў

Пачаўшы з дзіўнага турнэ, варта заўважыць, што дзіўноты палітычнай гульні прарока Самуіла на гэтым не заканчваюцца. Падчас той паездкі ў правінцыйны Віфлеем Самуіл абірае намінальным Давіда валадаром, ужо некалькі гадоў маючы на троне другога цара.

Саул Самуіла не задавальняў. Канчаткова гэта высветліла вайна з амалікцамі, зненавідным Самуілу народам. На загад Самуіла цар Саул разграміў амалікцаў, выразаў насельніцтва, але насуперак волі прарока пашкадаваў іх валадара і ашчадзіў быдла. Прарок раз'юшаны. Бо яго загад (а значыць, і загад Гасподні) гучаў адназначна: не па-

кінуць ад амалікцаў аніводнай жывой душы! а цар Саул у даважак меў дзёрзкасць перад бітвай у Міхмасе сам, як мог, правесці рытуал ахвярапрынашэння без дапамогі святароў.

Прарок пачасту пагражае свайму стаўленніку, але зрабіць нічога не ў змозе – механізм выхаду ў адстаўку дзейнага цара не быў яшчэ распрацаваны. Памазаўшы Саула на царства, Самуіл не ў стане адным рухам выкінуць яго з кіроўнай абоймы. і таму робіць гэты нягеглы захад: паверх старога цара патаемна, на перспектыву, мажа на царства яшчэ аднаго, як яму падаецца, больш паслухмянага Давіда.

Згэтуль яны будуць танчыць гэты танец улады ўтрох, уфармаваўшы амаль любоўны трохкутнік. Самуіл будзе ўсяляк дзяўбаць неўратычнага Саула, але да рашучых дзеянняў не дойдзе. Саул, у сваю чаргу, няўклюднымі захадамі будзе абмяжоўваць духоўную ўладу Самуіла і вайсковую – папулярнага ў народзе генерала Давіда. Хітрамудры і ўдачлівы Давід будзе лавіць у муту рыбу. Ухіляючыся ад хвосткіх удараў падвойнага «Са», будзе старацца сябраваць з абодвума. Пакуль тыя двое бяруцца ў рожкі, Давід

абрастае ў пер'е. Пакрысе назапашвае легітымнасці і палітычнай зарукі, прыхоўваючы сваю царскую сутнасць.

Да канца «Трэцяй кнігі Царстваў» Самуіл сышоўся на пшык – рэлігійны істэблішмент ашукаў самога сябе. Прарок Самуіл загуляўся ў «цара гары», гульню, якую сам і прыдумаў. На дваіх менеджэраў моцы генеральнага дырэктара не хапіла. Цар Саул урэшце загінуў у бітве з філістыйцамі, Самуіл сканаў ад старасці. Іх нашчадкі нейтралізаваныя Давідам, які і бярэ стырно ўлады ў свае ўчэпістыя рукі.

**4. Першыя-апошнія**

Манархія – новы этап у развіцці дзяржавы. Больш дзейсны спосаб кіравання пасля ўлады прарокаў. у валадара, у адрозненне ад святароў, ёсць прафесійны падзел працы, нейкае падабенства кабінету міністраў. І хай нас не бянтэжаць назвы міністэрскіх пасадаў кшталту той, якую атрымаў пры двары Давіда нехта Ехдыя Мераніец – «загадчык асліцамі». Асліцы (менавіта так, жаночы род) у тыя часы цаніліся як «МАЗы», «БелАЗы», «Беларусы», «Палессі», танкі і аўто разам узятыя. Ужо пры двары цара Саламона векапомны прыём ца-

рыцы Саўскай і яе світы ў Ерусаліме арганізуе крэпкі гаспадарнік, «загадчык царскім домам» Ахісар. Ці не праўда – гэтая пасада ўжо і гучыць бліжэй да «кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі»?

Сыноў Самуіла пасля смерці бацькі больш на старонках Старога Запавету не згадваюць. Ніхто, акрамя бібліістаў, ужо не ўспомніць, як звалі прарока Господняга пры сыне Давіда, цары Саламоне. Прарок Натан ведаў сваё сціплае месца. Сваімі цырыманіяламі і збольшага пратакольнымі выступамі нагадваў хутчэй каралеву ў сучаснай Брытаніі або прэзідэнта ў мадэрновай Дзяржаве Ізраіль.

А пасля Саламона дык наадварот – прарокі бяруцца за абавязкі апазіцыі. Абавязкі, паводле якіх мы ведаем іх і цяпер: выяўленне рэчаіснасці ў апакаліптычных танах і нястомная крытыка дзейнай улады. Палітычныя магчымасці прарокаў зрабіліся абмежаваныя, кланавая магута з'ехалася на пшык. Але ж маральны аўтарытэт наадварот – узруніўся і буйна ўскаласіў.

Гэтак, з цягам часу, першыя зрабіліся апошнімі. Аднак такімі апошнімі, за якімі

апошняе слова. Увушшу дыктатараў усіх часоў і народаў дагэтуль, спадзяюся, стаіць той хвосткі вокрык прарока Іллі, які ён адрасаваў цару Ахаву (цар пакараў смерцю васала толькі каб прысабечыць ягоны вінаграднік): «Ты забіў і ты яшчэ ўспадкаваў?!»[22]

## Партызаны, партызаны, ханаанскія сыны

### 1. Пазычэнцы

Першым партызанам у гісторыі чалавецтва быў цар Давід. Гэта адбылося падчас ізраільска-філістыйскай вайны, яшчэ да таго як Давід пераняў карону з рук свайго папярэдніка, цара Саула. і як яно зазвычай вядзецца ў Бібліі, гісторыя старазапаветнага партызанства – не толькі займальная байка, але і добрая навука.

Такім парадкам. Філістыйцы ўрываюцца ў Юдэю. Частковая акупацыя тэрыторыі. Улада ў краіне ірвецца паміж святарамі, кіраванымі апантаным сваім месіянствам прарокам Самуілам, ды свецкім лобі з не надта ўраўнаважаным царом Саулам на чале. Давід,

22 Трэцяя Царстваў 3:21.

у цывільным жыцці – пастух і музыка – за ратныя вычыны, сярод якіх вылучаецца перамога ў дуэлі над Галіяфам, даслужыўся да пасады тысячніка, то бок генерала. Аднак цяпер Давід (у Скарыны – «Давыд») мусіць сысці са сваімі людзьмі «ў лясы» – пячоры на беразе Мёртвага мора. Адтуль ён ладзіць набегі на рэгулярныя войскі ворага. Хаваецца ў пячорах Давід не толькі ад акупантаў, але і ад Саула, які не можа змірыцца з узвышэннем былога пастуха. Вось як гаворыць Біблія пра пачатак таго партызанства:

«І выйшаў Давід адтуль, і ўцёк у пячору Адаламскую, і пачулі браты ягоныя і ўвесь дом бацькі ягонага і прыйшлі да яго туды. І сабраліся да яго ўсе прыгнечаныя, і ўсе пазычэнцы, і ўсе засмучаныя душою, і стаўся ён начальнікам над імі: і было з ім каля чатырохсот чалавек»[23].

Адно слова, удала перакладзенае Васілём Сёмухам, тут муляе, чапляецца, звініць абрыдлівым званочкам. Далібог нешта не ў парадку ва ўсёй гэтай гісторыі. Нешта-нейкае, якое не стасуецца з іміджам народных

23 Першая Царстваў 22:1. Пераклад Васіля Сёмухі.

мсціўцаў. «Пазычэнцы». Людзі, якія пазычылі і не вярнулі. Адным словам, уцекачы ад даўгоў і, часам, правасуддзя. Так чытача апякае першае прызнанне: Давід – не зусім Туўя Бельскі, што павёў у Налібацкую пушчу і гэтак выратаваў ад жахаў другой сусветнай сотні дзяцей і старых. Бадзянне па цяснінах і пячорах чатырохсот мужчын, сярод якіх не толькі салдаты, заўзятыя патрыёты і пацярпелыя ад вайны, але таксама ўхілісты, ці, можа, нават крымінальнікі, як найменей насцярожвае. і Біблія сваіх падазрэнняў не хавае.

**2. Тры царскія аблiччы**

Стаўленне Бібліі да Давіда паводле прыязнасці можна падзяліць на тры роўныя часткі. У пачатку «Першай кнігі Царстваў» яе тон узнёслы і захоплены – Давід паганьбіў філістыйцаў, забіўшы асілка Галіяфа. Давід змагаецца з дэспатычным царом Саулам – тон Бібліі яшчэ больш узнёслы і хваласпеўны. У гэты пэрыяд Давід паспяхова «ўваходзіць і выходзіць». «Уваходзіць і выходзіць» – выраз, які даўні іўрыт ашчадзіў для найвышэйшых павадыроў і які азначае «кіраваць, быць

на чале, весці публічную палітыку». У гэты першы пэрыяд любыя маральныя хібы і кепствы Давіда надзейна прыкрытыя фразай «бо Гасподзь быў з ім».

Апошняя ж, трэцяя, частка Давідава жыццяпісу вытрыманая ў асуджальным тоне. Біблія нават не спрабуе схаваць узніклай пагарды да цара. Паслаўшы баявога таварыша Ўрыю ў самае пекла бітвы, Давід вырак таго на пэўную смерць, толькі каб схаваць свой раман з Урыевай жонкай, Бат-Шэвай – яна ж Вітсавія – і яе пазашлюбную цяжарнасць. Падрабязна смакуецца дэбашырства Давіда падчас транспартавання святыні, Каўчэга Запавету, у Ерусалім: блазенскія танцы перад прасталюдзінамі і публічная сварка з жонкай, царыцай Міхоль. У самым канцы жыцця Давіда Біблія – стасоўна манарха колісь стрыманая – дык ўвогуле скочваецца да ўзроўню жоўтай прэсы. Калі да лядашчага Давіда ў ложак прыдворныя дагодліва кладуць маладую і прыгожую цнатлівіцу, дык чытачу з’едліва паведамляецца, што «цар не спазнаў яе».

І вось, паміж гэтымі дзвюма часткамі – захапленнем перспектыўным памазанцам і тролінгам састарэлага манарха – партызан-

скі эпізод. Пераходны адцінак, дзе Біблія сухая, неэмацыйная. Хутчэй інфарматыўна дае неўхарошаны і амаль бесстаронні аповед. У практычнай плашчыні, з веданнем справы, Біблія ўзброеная трапнымі назіраннямі з натуры. Не ствараючы, не ўхваляючы, а хутчэй разбураючы і дэмантуючы міф партызанкі. Разам з тым, агаліўшы сутво, Біблія не скочваецца да галаслоўных ганьбаванняў і асуды. Біблія ўздымае дылемы, з якімі абавязкова будуць мець справу наступныя пакаленні лясных братоў.

### 3. Зрабіў Давід сабе імя

Па-першае, кажа Біблія, усякая партызанка сутыкаецца з балючай праблемай лагістыкі. Гэтая праблема настолькі сур’ёзная, ажно заданне накарміць байцоў пачасту змушае рабіць маральны выбар, які дапякае не менш востра, чым дылемы на перадавой.

Цэлы 25-ы раздзел Першай Кнігі Царстваў прысвечаны ўзаемаадносінам цывільнага насельніцтва з партызанамі. Да Навала, багатага гаспадара авечкавай фермы, Давід пасылае дзесяць байцоў з весткай. Вестка дужа вымоўная і каларытная, таму дазволім сабе падаць яе цалкам:

«Мір табе, мір дому твайму, і ўсяму твайму мір! Сёння я пачуў, што ў цябе стрыгуць авечкі. Зараз твае пастухі былі з намі, і мы не крыўдзілі іх, і нічога ў іх не прапала за ўсе дні, пакуль яны былі на Карміле. Спытайся ў тваіх парабкаў, і яны скажуць табе. Хай знойдуць мае юнакі ўпадабанне ў тваіх вачах, бо ў добры дзень прыйшлі мы. Калі ласка дай тваім рабам і твайму сыну Давіду, што знойдзе твая рука»[24].

О, як жа былі знаёмыя гэтыя пяшчотныя інтанацыі гаспадарам камерцыйных шапікаў у Менску на пачатку 90-х гадоў XX стагоддзя! Бацюхна Давідзе, дык гэта ўжо рэкет!

Так і бачу я гэтую карціну. У намёт да фермераў, хмурных людзей з абветранымі тварамі, увальваецца дзесяць непаголеных «юнакоў», якія млява і нібыта гуляючыся ў ножыкі, патрасаюць сваімі аграмаднымі кінжаламі, з драпежнымі ўсмешкамі на тварах патрабуюць даніны…

Але Навал не ўражаны – праганяе рэкецціраў. Які такі Давід, кажа ён, кожны можа сказаць, што Гасподзь з ім, ходзяць тут усякія-розныя…

---

24 Першая Царстваў 25:7,8.

Гэтая гісторыя, якая магла б скончыцца крывавай разборкай, не абышлася без мудрай жанчыны-ратаўніцы. Навала ад навалы выбаўляе жонка Авігайль. Зразумеўшы, што калі Давід паслаў дзесяць хлопцаў толькі каб давалачы харч для астатніх, дык тых астатніх – чортава процьма, і партызаны абавязкова вернуцца. Перад абліччам блізкага самасуду Авігайль не толькі аснашчае цэлы караван правізіі для «бацькі» Давіда. Не думаючы двойчы, Авігайль дэманстратыўна выракаецца заможнага мужа і самае галоўнае – ліслівіць перад славалюбным генералам. «Няхай мой гаспадар не зважае на гэтага мярзотнага чалавека, і мярзота ягоная з ім»[25], – цыркаецца яна з Давідам. Дзякуючы Авігайль улагоджаны камандзір і яго «юнакі» не вяртаюцца, каб адплаціць натурыстаму мужу. Авігайль уцякае ад мужавага гневу і нават бярэ шлюб з Давідам.

Праўда, праз пару дзён Навал раптоўна памірае ад сардэчнага прыступу («і замерла ў ім ягонае сэрца»[26]). А ўся яго маёмасць праз новую жонку пераходзіць... да каго?.. Не трапіўся ў хапку – не краў шапку!

25 Першая Царстваў 25:25.
26 Першая Царстваў 25:37.

Адным словам, нягледзячы на заклікі да святой вайны з іншаземцамі, як намякае Біблія, мясцовае насельніцтва партызанам давярае не заўсёды. А апошнія ў сваю чаргу не заўсёды паводзяцца адпаведна высокаму званню абаронцаў Айчыны. І ці варта тут дадаваць, што частка з чатырох соцень мужчын прызыўнага веку ўзяла і пакінула перадавую, што з гледзішча афіцыйнай улады – звычайнае дэзерцірства?

Па-другое, Біблія вучыць, што калабарацыя і братазабойства заўжды ходзяць дзесьці побач з партызанамі і досыць часта робяцца іх спадарожнікамі. Партызанскае войска Давіда, змучанае голадам і сутычкамі, ідзе на паклон да клятага ворага – пагаджаецца працаваць на філістыйцаў. На службе ў філістыйцаў Давіду даводзіцца весці карныя аперацыі: выразаць мужчын і жанчын з плямёнаў, якія жывуць кампактна з габрэямі, а таксама рабаваць жыхароў Юдэі. І Біблія падрабязна дакументуе гэтыя злачынствы.

Потым, ужо пасля Давіда, партызаны розных эпох мяжу маральнага поля будуць таксама пераходзіць. І што робіць справу яшчэ больш заблытанай – вяртацца назад

у межы таго поля. Як сказаў сведка зусім ужо іншай у часе і прасторы вайны:

«І на чыім баку зло, і на чыім дабро, часта не залежала ад колеру сцяга»[27].

А зверствы партызан будуць спісвацца на абставіны. Вось і летапісцы Давіда спрытна маніпулююць: маўляў, сярод цывільных рэзаў Давід толькі неабрэзаных і потым змыў ганьбу крывёю сапраўдных ворагаў – філістыйцаў і амалікцаў.

І наастатак, Біблія ніштожыць яшчэ адзін міф, які ўпарта быў пераконваў, маўляў, партызаны – людзі, узятыя на заклік часу з народнае гушчы, каб, перамогшы лютага ворага, у гэтую гушчу і вярнуцца. Давід і браты не з такіх! Калі б Давід пачуў, што герой другой сусветнай вайны Тувя Бельскі, які выратаваў больш за тысячу людзей, дажываў сваё жыццё звычайным нью-ёрскім таксістам, дык, пэўна, шчыра б здзівіўся. Давіду падабаецца «ўваходзіць і выходзіць», яму да душы элегантныя перамогі не толькі на полі бою. Ён не вернецца да пастухоўства, а музы-

27 Зьміцер Бартосік. Быў у пана верабейка гаварушчы… (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе) — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2016.

каваць згэтуль будзе на пазалочаных гуслях. Давід ужо скалаціў свой партызанскі клан – трыццаць франтавых таварышаў, якіх рыхтуе для будучай уладнай вертыкалі.

Далей на далей, Давід прымаецца паразітаваць на тэме вайны, прабівацца ў героі. Распускае разадзмутыя да неверагодных памераў, тыражаваныя тадышнімі СМІ, чуткі пра свае баявыя заслугі. Вось, да прыкладу, адзін з чальцоў яго «адважнай трыццаткі», нейкі Адына Эцніец, «паклаў васямсот чалавек за адзін раз»[28]. Мёртвых акупантаў не шкада.

Па смерці Саула Давід бярэ чынны ўдзел у палітычнай гонцы: інтрыгуе, збаўляе са свету канкурэнтаў з дома Саула. Нават такі штрышок, які выяўляе ў ім хутчэй выхітраванага палітыка, чым ляснога рыцара без страху і дакору: пахаванне царскіх сямейнікаў з Саулаўскага дынастыі Давід расстаўляе з нечуваным дагэтуль размахам. Мэта – за адзін добры дзень давесці недатычнасць да палітычных забойстваў і ўмацаваць непарушнасць царскай улады, якая цяпер перайшла да ягонай дынастыі.

---

28 Другая Царстваў 23:8.

Давід спачатку царуе ў абласным Хеўроне, потым у сталічным Ерусаліме, зрабіўшыся першым сакратаром ЦК Юдэі.

## Давід і Міхоль, або Каханы ўлюбёнец

### 1. Як сваю душу

Адзін Галіяф не паспеў палюбіць Давіда, бо атрымаў ад будучага цара камянюкай у лоб. Каб жа ж гаротнаму волату пашчасціла вылузнуць з зоны дзеяння прашчы і наблізіцца трошачкі бліжэй! Галіяф патрапіў бы тады – як і ўсе астатнія яго сучаснікі – пад магутныя чары Давіда. Грубы ваяка і заўзяты забойца, без сумненняў, расчуліўся б і залагаднеў у сваім сэрцы, падобна рэшце старажытнай грамады, калі б загаварыў да рудога хлопца, які і першарадны ігрэц, і «чалавек адважны і ваяўнічы, і разумны ў словах, і паглядны».

На вялікі жаль, тонкаскурасць Галіяфа праявілася крышачку зарана.

На старонках першых дзвюх Кніг Царстваў, там, дзе з'яўляюцца разнастайныя формы дзеяслова «любіць», шукайце поруч Давіда. То той яго палюбіў, то гэтая, то гэныя… Да Давіда маюць любасць нават тыя, хто, здаецца, паводле логікі яе мець не павінны. Вось папярэднік, цар Саул «палюбіў Давіда», а той, дарэчы, увесь час аспрэчваў яго ўладу. Вось сын Саула, крон-прынц Ёнатан, што «палюбіў Давіда, як сваю душу». Пад уплывам любові Ёнатан не толькі прызнае прэтэнзіі Давіда на бацькаву спадчыну, ды яшчэ ўсяляк дапамагае сябру ўладкавацца на троне. Вось уся саюзная дзяржава, Ізраіль і Юдэя, «любілі Давіда, бо ён выходзіў і ўваходзіў»[29], то бок, вёў публічную палітыку – хоць ён скача з трона на трон. Любоў да Давіда перасякае межы габрэйскага народу – яго «любіць усе свае дні» цірскі цар Хірам.

Зачараванасць Давідам сягае межаў рэлігій і часу. Хрысціяне, юдэі, мусульмане пясцяць міжсобку ўсе мажлівыя разлады, і адна з нешматлікіх аб'ядначых асобаў, па якой яны маюць шырокі кансенсус – руды цар-му-

29 Першая Царстваў 18:16.

зыка. Мацвей і Лукаш цягнуць радавод Хрыста ад першага чалавека, Адама, з абавязковым прыпынкам на Давідзе. У ісламскай традыцыі Давуд – прарок і праведнік. Ды што казаць – самі аўтары Бібліі, нягледзячы на амаль люстэркавыя зверствы дзвюх першых дынастыяў, у Кнігах Царстваў адкрыта займаюць бок дома Давіда, а не дома Саула.

Давідава дынастыя ўжо больш за дзве з паловаю тысячы гадоў сышла з гістарычнай дыстанцыі, але па-ранейшаму застаецца прывабнай тэалагічнай канцэпцыяй. Хрысціянскі Збаўца і юдэйскі Месія акрамя абавязковага заезду на белым аслюку ў Ерусалім, мусяць у дадатак паходзіць з дома Давіда.

**2. Любіла ці кахала?**

Колісь (спадзяюся яшчэ ў гэтым стагоддзі) мусяць выйсці першыя кнігі Старога Запавету, упершыню перакладзеныя на беларускую мову з арыгіналу, то бок з старагабрэйскай. У працоўнай групы пад кіраўніцтвам тэоляга Ірыны Дубянецкай назапасілася процьма перакладніцкіх дылемаў. Цяжкіх месцаў, калі немагчыма перадаць гульню словаў і шматзначнасць мовы

арыгіналу інструментамі сучаснай беларускай. Яскравы прыклад – Адам і Ева, якія, як вядома, былі голыя (іўр. «арумім»). Але гэты «арум» азначае яшчэ «хітры», і цяпер Змей, які быў, як вядома, хітрэйшы за людзей, мусіць, зрабіцца «галейшым», ці што? Такіх цяжкасцяў у перакладзе Старога Запавету спрэс. Але ў гісторыі любові Міхаль (у Скарыны – Михоль, як мы яе дзеля звыкласці і каб не блытаць з мужчынскім іменем Міхал будзем менаваць ніжэй) і Давіда – гэта той адваротны выпадак, калі якраз беларуская мова выяўляецца багацейшая. Тут круціць перакладніцкімі глуздамі трэба ў адваротны бок – выбіраць трапнейшае ўжо з беларускай моўнай скарбніцы. Вось як перадаць іўрыцкі дзеяслоў «леагоў», раз мы маем і «кахаць» (калі гаворка ідзе пра рамантычнае пачуцце), і «любіць» (больш агульны сэнс)?

З любоўю (і каханнем) у Бібліі ўсё ў парадку. З тэкстаў мы дазнаемся, што Абрагам любіць сына Ісаака, Якаў сем гадоў (і потым яшчэ сем) любіць Рахіль. Рут з Маава любіць сваю габрэйскую свякруху Наому, персідскі цар Артаксеркс любіць царыцу Эстэр. Міхоль – адна-адзіная жанчына ў празаічнай

частцы Старога Запавету, якая любіць мужчыну.

Дык што, Міхоль кахае ці любіць? Асцярожныя перакладчыкі, вядома, абяруць больш агульнае «любіла». Аднак перш чым вырашыць напэўна, давайце спярша паслухаем усю гісторыю Міхоль і Давіда.

### 3. Міхоль і Давід

Міхоль, дачцэ цара Саула, да душы ягоны генерал Давід. Яна распавядае Саулу пра сваю сімпатыю і просіць бацькоўскай згоды на шлюб. Саулу гэта падабаецца. Яму якраз трэба наблізіць Давіда, але адначасна звязаць абавязкамі і натхніць на адчайныя подзвігі – у краіне лютуе філістыйская акупацыя. У якасці першага такога вычыну Саул патрабуе ад Давіда выкуп за нявесту – сто скрайніх плоцяў філістыйскіх салдат (блізкаўсходні аналаг варожых скальпаў ворагаў, але – надта ж, х-м-м, своеасаблівы). Перавыканаўшы план па плоцях на сто адсоткаў (то бок адцяўшы дзвесце), Давід кідае выкуп да царскіх ног.

Далей на далей, раўнівы і падазроны Саул, бачачы ўзвышэнне Давіда ў народзе,

вырашае зяця забіць. І тут ратуе Міхоль: даведаўшыся пра замах, яна спускае Давіда з вакна спальні. Замест мужа кладзе ў ложак статуэтку і кажа слугам, якім загадана пільнаваць яе мужа ноч перад забойствам, маўляў, Давід хворы. Калі ж на ранак раз'юшаны Саул заспявае пусты ложак і дапытвае дачку, чаму яна выпусціла Давіда, дык Міхоль адважна хлусіць, маўляў, той пагражаў ёй смерцю.

Далей на далей, раз'ятраны Саул аддае Міхоль іншаму мужчыну, немаладому Фалтыю, сыну Лаіша, і тая доўгія гады гібее без каханага, які цяпер у бягах.

Праз шмат-шмат гадоў, узышоўшы на трон у суседняй Юдэі, Давід перш-найперш з усёй манархавай патрабавальнасцю вымагае ў дома Саула вярнуць жонку. І толькі пасля чатырнаццацігадовай разлукі муж з жонкай злучаюцца наноў...

Подзвіг дзеля пекнай дамы, рамантычныя ўцёкі праз акно, ахвярная і доўгацярплівая каханка, аддany саюз прадстаўнікоў дзвюх варожых дынастыяў. Старазапаветныя Рамэа і Джульета! Насуперак асцярож-

насці перакладчыкаў, тут бадай адзінае месца ў празаічнай Бібліі, якое перакладаючы можна ўжыць наш адметны, па-шэкспіраўску жарсны дзеяслоў:

«Убачыў Саул і пазнаў, што Госпад з Давідам, і што Міхоль, дачка Саула, кахала Давіда»[30].

Аман.

**3. Сцэн(к)а з сямейнага жыцця**

Апошні раз, калі мы бачым шчасліва ўз'яднаную пару разам – Давід на вачах Міхоль пераносіць святыню, Каўчэг Запавету, у сталічны Ерусалім.

Апрануты ў наплечнік, такую сабе тогу (штаноў тады катэгарычна не прымалі), Давід ідзе на чале працэсіі. Вяртаючыся дадому і да гарэму з шасці жонак, цар дурэе, грае на ўсякіх інструментах адразу і танчыць перад прасталюдзінамі «з усёй моцы» – ледзве не выскокваючы з наплечніка. Міхоль, гледзячы праз вакно – зноў вакно! – на працэсію і неўтаймаваныя торганні супружніка, «у душы зняважыла Давіда». Яна з'едліва выгукае:

30 Першая Царстваў 18:28.

«Які шаноўны сёння цар Ізраілю, што агаліўся сёння перад вачыма служанак яго рабоў, як галяком агаляецца які-небудзь нікчэмнік!»[31]

Пасля такіх словаў, якія царам можна казаць толькі сам-насам у спальні, выбухае сямейная сварка, адразу па заканчэнні якой Біблія суха паведамляе, што «ў Міхоль, дачкі Саула, не было дзяцей да дня яе смерці».

Лютая фраза! Але думкі Міхоль, якія настроілі яе на сварку, таксама жорсткія. Бо цяпер, калі яна (праз вакно) нібыта паглядзела на сваё жыццё збоку, да Міхоль зрэшце даходзіць. Па-першае, яна раптам разумее, што яе каханне, колісь магутнае і трывалае, выпетрылася дашчэнту. Пабудаваны на паўторах біблійны тэкст фактычна адсылае да іншага, ранейшага, непрыстойнага агалення манарха. Цар Саул пасля ўцёкаў Давіда праз вакно, з роспачы, што ўпусціў ворага, раздзеўся і проста на вуліцы бажаволіў і гармідарыў. Тады Міхоль адчула, што бацька зрабіўся для яе проста царом Саулам, чужым чалавекам, які скарыстаў яе: хацеў забіць яе

31 Другая Царстваў 6:20.

каханка і цяпер мерыцца аддаць яе ў выгнанне да незнаёмага мужчыны. І вось сёння, ужо яе аголены муж, таксама ператварыўся ў проста цара Давіда, чужога чалавека, былога каханка.

Другая думка – яшчэ люцейшая, страшнейшая: сваю гісторыю кахання Міхоль выдумала ад пачатку да канца. Яна сама зладзіла шлюб, скарыстаўшыся момантам, калі Саулу і Давіду ён быў выгадны. Сама ратавала каханка ад бацькі, заплаціўшы за гэта шматгадовай ссылкай. Давід жа, які ў часы разлукі абзавёўся пяццю жонкамі, не чакаў яе – адно пільнаваў нагоду сцвердзіць сваё царскае права. А патрабуючы ў прадстаўніка дому Саула Міхоль назад, ён проста хацеў паказаць, хто ў гаспадарстве гаспадар:

«Аддай маю жонку Міхоль, з якой я заручыўся за скрайнюю плоць ста філістыйцаў!»[32] – гарачыўся надоечы яе каханы. А ўвушшу Міхоль цяпер звініць: «аддай!», «маё!», «я!», «я заплаціў!»

Міхоль урэшце заўважае, чаго не згледзелі ані сыны Юдэі, ані дочкі Ізраілю, ані замежныя сімпатыкі – Давід, гэты грамадскі ўлюбё-

32 Другая Царстваў 3:14.

нец і каханак, ніколі нікога не кахаў і нават не любіў. Вось корань трагедыі. Вось сутнасць адносін Давіда з блізкімі людзьмі. Ён умее адно прымаць любоў і песціцца ў яе промнях. Слізгаць па яе паверхні, нібыта гнаная вандроўным ветрам увішная фелука па абліччы Чырвонага мора. Гэтыя любові да мужчын і жанчын Давід, мусіць, неяк цэніць на свой капыл, цешыцца імі, але ж так, як цэняць рэчы і ўспаміны, звязаныя з уласнымі перамогамі. Пястун ніколі не перапускае нагоды выкарыстаць гэты ўсеагульны поцяг для сваёй карысці.

Балада ўвачавідкі ператвараецца ў жорсткі раманс. Па сэрцы царыцы разліваецца невычэрпная горыч. І як вынік: атрутная сварка і імгненны разрыў… О, злобная любоў любоўнай злобай!..

## Рава, дарога смерці

### 1. Кнігі Царстваў

«Бо меч пажырае часам таго, часам гэтага»[33]

Выкшталцоная фраза. Дасканалая. І такая біблійная! Хоць ты яе ў раму забірай.

33 Другая Царстваў 11:25.

Нешта ў стылі Саламонавых выслоўяў, або Эклезіяста. «Час раскідаць камяні, і час збіраць камяні... ...час пажыраць таго, і час пажыраць гэтага». Векапомны выраз, што належыць якому-небудзь патрыярху або павадыру, які з аснежанай вяршыні ліе на нас ападкі сваёй мудрасці. І як удала адушавілі прадмет! Меч, не раўнуючы жывая істота, з ротам, зубамі, прагай трушчыць. Бездакорна.

Аднак мы не ў «Выслоўях», мы не ў «Эклезіясце». Мы ў пекле. Мы – у «Кнігах Царстваў». Тут кіраўнікі дзяржавы – персоны з плоці і крыві, прычым звычайна з чужой. Тут параноік Саул са сваёй псіхалогіяй абложанай крэпасці ўвачавідкі ператвараецца ў карніка, за вымысленую правіну аднаго чалавека вынішчае цэлы горад, Номву. Тут Ахаў, суверэн, што накіроўвае сіламоц не супраць ворагаў дзяржавы, а ўласных падданцаў. Каб здабыць упадабаны вінаграднік, Ахаў гноіць у турме ягонага ўладальніка.

Пра цароў – як пра зямное ўцелаўленне бога, пра манархаў – як пра сыноў сонца ды іншае ра-ра-ра, якое можна сустрэць у егіпецкіх ці сумерскіх міфах, у гэтых

біблійных кнігах гаворкі не пойдзе. Нават тых, хто чакаў гістарычны канал пра харашмяныя таямніцы сівой даўніны, перапрашаем, варта пераключаць. Тут расказвае і паказвае 11-ы раздзел Другой Кнігі Царстваў. Навукова-пазнавальная перадача «Як працуе палітыка насамрэч?»

**2. Як замесці сляды забойства**

Вось ён, цар Давід: у халаце на голае цела, з келіхам брэндзі і цыгарай. Прачнуўшыся адвячоркам, пахаджвае па каралеўскім пентхаузе, паглядаючы на сталічныя дахі. Дзесьці далёка на ўсходзе ягонае войска асаджвае аманіцкі горад Раву. Цар вырашыў застацца ў сталіцы. Спакойная абстаноўка і дзённая сіеста спрыяюць стратэгічнаму мысленню.

З гаўбца Давід заўважае прыгожую жанчыну, якая прымае ванну на даху свайго дому. Давід пасылае даведацца. Пасланцы стрымгалоў лятуць і вяртаюцца з адказам. Гэта Бат-Шэва, жонка баявога афіцэра Урыі Хэтыйца. Давід пасылае па Бат-Шэву.

Увогуле, у гэтай гісторыі шмат панавыпраўляецца пасланцоў і пасланцоў пасланцоў. Доўгі ланцуг уладнай машыны пакрысе

раскручваецца, размотваецца. Ініцыятар гэтага руху, Давід, усё больш аддаляецца ад эпіцэнтру, хаваючыся за спінамі пасланцоў-выканаўцаў, непасрэдных і апасродкаваных.

Біблія маўчыць, ці ўзяў цар Бат-Шэву гвалтам, ці ў іх усё атрымалася са згоды. Але пасля першай жа ночы Бат-Шэва зацяжарыла.

Каб Урыя як найхутчэй патрапіў да жонкі ў спальню, Давід адклікае мужа Бат-Шэвы ў сталіцу. Разумны ход афіцэрам для палітычных і вайсковых шахмат. Фармальная нагода – цар хоча пачуць жывую справаздачу з поля бітвы. Пасля гутаркі пра тое і пра гэтае, Давід прамаўляе Урыю самую галоўную фразу, дзеля якой і выпісаў афіцэра з перадавой:

«Ідзі з палаца дадому і абмый свае ногі»[34].

Ногі мужам абмывалі жонкі. Уявім салдата, якому падчас вайны выпала шчасце на кароткую перабыўку трапіць дадому.

Урыя адмаўляецца ісці дахаты. Не, ён не будзе кунежыцца на пярынах, пакуль баявыя таварышы ночаць у акопах. Ці то кпіць гэты Урыя з цара, які застаўся падчас вайны

34 Другая Царстваў 11:8.

ў палацы, ці то пачаў нешта падазраваць? Так ці інакш, адмовай спаць з жонкай Урыя падпісаў сабе смяротны вырак. Колы ўладнай машыны круцяцца ўсё хутчэй.

Давід вырашае працаўладкаваць ахвяру на фабрыку смерці лістаношам – разам з Урыем пасылае запячатанае пісьмо вайскаводцу Ёаву:

«Пастаўце Урыю дзе самая моцная бітва, адступіцеся ад яго, каб быў пабіты і памёр»[35].

**3. Сняданак пад кулямі**

У ланцугу ўладнай машыны настае чарга войскаводца Ёава. Нягледзячы на царскі загад ён не хоча падстаўляцца. Ён не будзе пасылаць аднаго Ўрыю ў гушчу бою – выглядае тое надта падазрона. Каб завуаляваць забойства, Ёаў ставіць Урыю пад самыя муры абложанай Равы разам з групай іншых салдат. Неасланёны, цэлы аддзел з Урыем на чале, робіцца лёгкай здабычай абаронцаў гораду.

Далей на далей, Ёаў шле ў Ерусалім пасланца, загадаўшы яму аб такім сцэнары размовы:

35 Другая Царстваў 11:15.

«Ты раскажаш цару пра ўвесь ход бітвы і калі цар угневаецца і скажа табе (...) навошта вы набліжаліся да сцяны? І тады ты скажаш: і раб твой Урыя Хэтыец таксама забіты»[36].

Ёаў хоча, каб Давід адхапіў кантрастны душ. Каб цар з усёй яснасцю адчуў, што ён у Ёава ў кулаку. Ёаў цяпер – не толькі сляпы выканаўца, але і відавочца, сведка царскай сваволі. Цяпер з Ёавам трэба лічыцца.

Але ж пасланец таксама дбае пра сваё. Ён не можа сваім аповедам нарошчваць градус фірмовага царскага гневу. Ён шмат чуў пра тое, як венцаносцы злосці поўныя косці забівалі на месцы вестуноў няшчасця.

«...Адольвалі нас тыя людзі і выйшлі да нас у поле, а мы пераследвалі іх да ўваходу ў браму», – тупамерна бубніць пасланец. Маўляў, «...вайна, сір, што паробіш... у куражы бітвы палезлі на ражон вашы найбольш гарачыя мушкецёры».

Шантаж Ёава праз пасланца не працуе на ўсе сто, але ў цэлым справа ідзе на крэпкую чацвёрку. Факты паспяхова адсланілі

36 Другая царстваў 11:20, 21.

праўду – усе бачылі, як Урыю і яго хлопцаў забілі аманійцы, жыхары Равы. Давід таксама збольшага ўсцешаны. У водпаведзі да пасланца ён – сама лагода:

«Так скажы Ёаву: Хай не бянтэжыць цябе гэтая справа, бо меч пажырае часам таго, часам гэтага(…) Так падбадзёры яго»[37].

То бок, «усё ў парадку, Ёавік, канцы ў ваду. Але аёй табе вылазіць з нашым сакрэтам на свет Божы. Бо наступным разам на сняданак пад кулямі можа паслаць… таго… а часам гэтага…»

Справа завершаная. Целы Урыі і яго хлопцаў гніюць непахаваныя ля сцен Равы. Хіба што кулуарны праўдаруб, прарок Натан, усхваляваны ад уласнае адвагі, калі-небудзь потым шапне Давіду на вушка: «А яго ты забіў мячом аманійцаў»[38]. І цішыня.

37 Дарэчы, за пышнай, але часцяком выдзіранай з кантэксту біблійнай цытатай: «Да кожнага народа на мове яго», – таксама хаваецца гісторыя царскага гвалту. Глядзіце раздзел «Кніга Эстэр. 3-D версія».
38 Другая Царстваў 12:9.

# Маленькія і сімпатычныя наносяць удар у адказ

## 1. Маленькая сенсацыя

У 2008 годзе ў беларуска-габрэйскім бюлетэні «Мы яшчэ тут!» выйшла сенсацыйная перадавіца – класік ізраільскай літаратуры Хаім-Нахман Бялік меў беларускае грамадзянства. Працуючы ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь французкая даследчыца гісторыі доктар Клер Ле Фоль высветліла, што ў 1921 годзе Хаім-Нахман Бялік звяртаўся да ўладаў Беларускай Народнай Рэспублікі, каб тыя паспрыялі выезду яго сям'і з Турэччыны. Новаму грамадзяніну БНР аформілі пашпарт, дзе было пададзенае фіктыўнае месца нараджэнне – Слонім Гарадзенскай губерні (насамрэч Бялік нарадзіўся ва Ўкраіне). У паперы пазначалася сталае месца жыхарства – горад Адэса, дата нарадзін, а таксама колер вачэй і валасоў паэта. Бясплатная віза на выезд была сапраўдная да 15 жніўня 1921 году. Кожны ахвочы можа паглядзець на гэты пашпарт – па Сеціве гуляе яго выява. Можа быць, выява самага славутага паэта, які меў бээнэраўскае грамадзянства.

Цікавая дэталь у дадатак: ізраільскага грамадзянства Бялік так і не атрымаў. Папросту не дажыў чатырнаццаці гадоў да 1948, году паўставання Дзяржавы Ізраіль.

### 2. Сімпатычны хітрык

Сёння ўжо цяжка сказаць, ці ж Бялік шчыра паверыў у беларускую незалежнасць, ці ж пашпарт з «Пагоняй» мусіў стацца яму адно прыладай дзеля перасячэння шматлікіх межаў, якія ў той час паўзнікалі ў Еўропе і Міжземнамор'і ў выніку рэвалюцыйных падзей.

Вядома, карціць сканструяваць з яго беларускага патрыёта. Бялік жа два гады вучыўся ў знакамітай Валожынскай ешыве, спасцігаючы іўрыт у беларускай версіі з вуснаў рабінаў-літвакоў. Аточаны тутэйшай прыродай напісаў верш «Да птушкі» (1892), які стаўся не толькі ягоным дэбютам, але таксама своеасаблівым маніфестам маладой іўрыцкай літаратуры. Верш вярнуў старажытную мову ў шэрагі дзейных гульцоў навачаснай паэзіі.

Але факты сведчаць пра іншае. Юнага Бяліка выслала ў Беларусь з роднага ўкраін-

скага хутара матка – падалей ад галечы і балючых успамінаў пра заўчасную смерць бацькі. Валожынская ешыва ў сваю чаргу была досыць герметычным мікрасветам, дзе кантакт з мясцовымі беларусамі быў мінімізаваны. У паэтычных вобразах і паэтавых успамінах захопленасць ешывай і яе творчай атмасферай у Бяліка ніколі не перакідвалася на навакольнае мястэчка. Ды і сам верш «Да птушкі» – горкі плач па згубленай сярод пустэльных пяскоў Бацькаўшчыне, у якім, на жаль, няма месца замілаванню крывіцкай флорай і фаунай.

І самае прыкрае для гэтае тэорыі. Дакладна вядома, што каб рэпатрыявацца ў Зямлю Ізраілю – тады правінцыю Брытанскай імперыі – Бялік пісаў не толькі да ўладаў БНР. Знаходзячыся ў тым жа 1921 годзе яшчэ ў Адэсе (папярэднім пункце сваёй чарнаморска-міжземнаморскай адысеі), Бялік звяртаўся яшчэ да адной новапаўсталай улады – у бальшавіцкі Крэмль да Ўладзіміра Леніна па дазвол выехаць за межы савецкай Расеі, для сябе і яшчэ дзевяці габрэйскіх паэтаў.

Нягледзячы на гэтыя нестыкоўкі і расчараванні, усё роўна вынікае: дзень выдачы

Бяліку бэнэраўскага пашпарту – вось сапраўдны дзень усталявання беларуска-ізраільскіх дыпадносінаў! Дзень, калі два пагарджаныя народы працягнулі адзін аднаму руку дапамогі. Сціснутыя з усіх бакоў еўрапейскімі і еўразійскімі дзяржавамі, што не вельмі прымалі чужое права на волю і незалежнасць. Вось сапраўдны Дзень беларускага дыпламата! Дзень, калі айчынны МЗС заняўся пачэснай справай – знайшоўшы бюракратычны пралаз, зрабіў намаганне вярнуць іншаму народу ягонага паэта (і можа быць, нават не аднаго).

### 3. Карты, грошы, люстраная падлога

Але вернемся да Бібліі. Прыгадваючы колішнія дыпламатычныя жэсты, да галавы ідзе афіцыйны візіт царыцы Саўскай у Ерусалім, да цара Саламона. Саўская – гэта ад назвы кампактнай дзяржавы Сава, якая знаходзіцца на поўдні Аравійскай паўвыспы, там, дзе сёння знаходзіцца Емэн.

Рыпенні вярблюдавай збруі, бразгатанне залатых бранзалетаў і стальных лат, трэнне адна аб адну напоўненых віном гліняных амфар, тупат басаногіх нявольнікаў, шоргат

апахалаў і шоўку. Водар заморскіх духмянасцяў і ліванскага кедру. Слодыч недагавораных таямніц... Усё роўна, як з гісторыяй з Бялікам – шмат чаго цмянага і нявысветленага. Нашто царыца Саўская прыбыла за тысячы кіламетраў у Ерусалім?

Грошы? Ніякім чынам! Саламон, можа, і «даў царыцы Саўскай усё, чаго яна жадала і чаго прасіла», але і самой царыцы давялося выдаткаваць цару «сто дваццаць талантаў золата і мноства духмянасцяў і дарагіх камянёў»[39]. Тое на тое.

Уплыў у рэгіёне і гандаль? Наўрад. Краіны, якія на той момант, можа, і квітнеюць на гандлі спецыямі і кедрам, але ж не настолькі, каб на сваіх сходах крэмзаць карту рэгіёну. Сава і Юдэя – адносна малыя дзяржавы, абнятыя з усіх бакоў магутнымі Асірыйскай і Егіпецкай імперыямі.

Паміж краінамі – 2000 кіламетраў Аравійскай пустэльні. Паводле падлікаў ізраільскага пісьменнніка Меіра Шалева[40], царскай кавалькадзе спатрэбіцца паўгода,

39 Другая Летапісаў 9:9.

40 מאיר שלו. ראשית: פעמים ראשונות בתנ"ך. עם עובד, תשס"א/2001.

каб агорацьу два канцы гэтую дыстанцыю, бо хуткасць каравану будзе раўняцца хуткасці самага слабага яго злучва – сасмяглага і змучанага спёкаю пешага нявольніка. Пакідаць трон на столькі часу вельмі небяспечна.

А сябраваць і гандляваць старадаўнім манархам можна было і на адлегласці. Вось цірскі ўладар Хірам любіў Саламона і бацьку яго Давіда «ўсе дні свайго жыцця» і даволі паспяхова гандляваў з імі, аднак жа ў Бібліі нідзе не пазначана, што яны бачыліся.

Дык можа прычына візіту царыцы – каханне і жарсць? Ужо цяплей. Пра гэта ў Бібліі нідзе не сказана наўпрост, але ж такая рэдкая жаночая прысутнасць на старадаўніх самітах і гарачы клімат Блізкага Усходу робяць сваё.

«І цар Саламон даў царыцы Саўскай усё што яна жадала і чаго прасіла, акрамя таго, што падарыў ёй цар Саламон сваёй рукой»[41].

У гэтай фразе гучыць такая празмерная дваістасць, – маўляў, спярша падарыў, а потым яшчэ і даў. Нашто такі навязлівы паўтор? І падступны іўрыт у дадатак. Дзеяслоў «жадала», «хефца», корань «х-ф-ц»,

41 Трэцяя Царстваў 10:13.

у фразе «ўсё, чаго яна жадала» – надта двухсэнсоўны, звязаны і з «жаданнямі», і з «пажадай», «юрам».

Як жа распалілі сваю фантазію гэтым дзеясловам і жаночай прысутнасцю габрэйскія, хрысціянскія і мусульманскія мудрацы! У раннім Сярэднявеччы па старонках апакрыфічных сачыненняў гуляла такая крэатыўная выдумка – люстраная падлога ў залі для прыёмаў. Пры дапамозе яе, маўляў, Шлёма-Саламон-Сулейман убачыў валасатыя ногі царыцы, якія з высокай пэўнасцю сведчылі, што заморская візітантка – спакуснік-чорт. З цягам стагоддзяў д'ябальшчына з'ехалася на пажадлівасць Саламона.

Нават далікатны Бялік не ўтрымаўся. Пераствараючы ўжо ў XX стагоддзі старагабрэйскія паданні, таксама прыплёў злашчасную падлогу. Царыца зайшла ў залю са шкляной падлогай, дык падумаўшы, што тая залітая вадой, інстынктыўна падняла спадніцы. Убачыўшы прыгажосць яе аголенага цела, піша Бялік, «Саламон адвярнуў галаву».

Мужу тысячы жонак таксама была вядомая сарамлівасць.

**4. Маленькія і сімпатычныя**

Але адна дэталь замінае ўбачыць гэтую сустрэчу як рамантычнае спатканне блізкаўсходняй сэкс-іконы з юрлівым каралём батанаў. Пакуль «усе цары зямлі шукалі, як пабачыць Саламона, каб паслухаць яго мудрасці», царыца Саўская з ганарліва ўзнятай галавой «прыйшла выпрабаваць цара загадкамі»[42]. Адным словам, прыйшла кінуць выклік царскаму мегаклёку. А, можа, не выпрабаваць, а выкарыстаць цара? Цяпер, калі позіркі зямных уладатрымцаў накіраваныя на Саламона і на яго суразмоўніцу, дык час выхваліцца фірмовым саўскім інтэлектам. Чаму жанчыне прыпісваюць найперш знешнюю апетытнасць, а не палітычныя апетыты?

Вось жа, прыйшла царыца і цара паглядзець, і сябе паказаць. І паслухаць, і завесці размову. Дыялёг, гутарку. Гутарку, якую яна не магла зачаць са сваімі ліслівымі айчыннымі вяльможамі. Ані з разумнымі, але адарванымі ад грамадскіх клопатаў вандроўнымі мудрацамі. Ані з пыхлівымі егіпецкімі фараонамі ці імперыяцэнтрыч-

42 Трэцяя Царстваў 10:1.

нымі, настроенымі на пастаянную экспансію асірыйскімі чыноўнікамі. Прыйшла завесці гутарку з царом Саламонам, як роўная з роўным.

...Пра што ж мы будзем размаўляць, о, Саламон? Пра цэны на кедр і алей. Гэта важная тэма, прысвецім ёй час. Пра кнігі. Вандроўныя мудрацы начыталі мне пару вашых кніг, святых кніг – асабліва мне спадабаўся прынцып адзінабожжа, якія прапаведуюць вашы святары, але цікава, як яго дастасаваць для жыцця дзяржавы? Пра тое, як жа добра, што нам няма чаго дзяліць. Пра мясцовыя чуткі. Далібог, егіпцяне слабеюць, але асірыйцы і вавілонцы паўсюдзяцца як саранча, і, відаць, о, Саламон, наступнай навалы чужынскіх орд нашы межы, пэўна, не вытрываюць. Нам з табой давядзецца пастарацца не стаць бяспамятнай правінцыяй, калі без'языкім васалам не ўдалося. Пра тое, што нам, маленькім сімпатычным народам, трэба сябраваць.

Прыкладна так магла звярнуцца Царыца Саўская да Саламона.

## Што агульнага ў «Песні пра зубра» з «Песняй Песняў»?

*«Regio campestris et huius indiga materiae constituatque domos»*

Гэткім быў першы беларускі рэкламны слоган. «Раўнінныя каралеўствы, запасайцеся матэрыяламі для пабудовы дамоў», або ў паэтычным перастварэнні Язэпа Семяжона – «Купляй і будуйся, бязлесны!» Аўтар гэтага, звернутага да Рымскага Папы ды іншых еўрапейскіх уладатрымцаў, слогану – паэт і дыпламат Мікола Гусоўскі.

У 1523 годзе ў Кракаве на тадышняй лінгва франка, лаціне, выйшла вершаваная паэма «Песня пра зубра»[43]. Паэма, якую ў сучаснай школе падаюць як «роздум пра лёс і месца Радзімы на шляхах гісторыі» або як «энцыклапедыю шляхецкага жыцця», насамрэч была прафесійна выштукаваным іміджавым ролікам. Рэкламным праспектам, выпушчаным на заказ Эразма Вітэліуса, кіраўніка пасольскай місіі Вялікага

43 Лацінскі тэкст паэмы ўзяты са старонкі knihi.com/Mikola_Husouski.

Княства Літоўскага ў Ватыкане і наўпроставага начальніка Гусоўскага («тут спроба мая, а рашэнне чужое»).

У паэме зубр, – а таксама зубрынае аблічча, дзікасць і паляванне на яго, – сталіся толькі зачэпкай. Гусоўскі мусіў даступнымі на той час медыйнымі сродкамі адрэкламаваць еўрапейцам сыравінныя выгоды – пушчы і зручныя гандлёвыя трасы – рэкі. Нібыта выхваляючы прыязны клімат нашых шыротаў Гусоўскі насамрэч апісаў клімат палітычны ды інвестыцыйны. Беларусь у паэме найперш – фарпост заходніх каштоўнасцяў (і рынкаў) перад навалай усходніх барбараў, да якіх аўтар прылічае крымскіх татараў, туркаў і маскавітаў:

«Войны вядзем мы за ўвесь безудзельны свяшчэнны брацкі саюз хрысціянства з навалай з усходу»[44].

Нібыта апісваючы норавы і забавы айчыннай шляхты, дыпламат насамрэч за-

44 Гусоўскі, М. Песня пра зубра : паэма / У перакладзе з лаціны Язэпа Семяжона. – Мн : Мастацкая літаратура, 2006.
Тут і далей, калі не пазначана дадаткова, цытаты з паэмы падаюцца з гэтага выдання.

пэўнівае чытачоў у падабенстве еўрапейскай і беларускай палітычнай сістэмы, якім уласцівы асвечаны феадалізм у спалучэнні з эфектыўнай сістэмай прыгону. І гэта нават не ўзгадваючы агульную з еўрапейцамі валюту – талер.

Вылучыўшы слоган, сфармулюем і месідж паэмы:

«Шаноўныя еўрапейскія інвестары, you are most welcome! Калі ласка – пад самым вашым бокам – цывілізаванае гаспадарства з вялікім сыравінна-гандлёвым патэнцыялам ды са зразумелымі вам правіламі гульні для вядзенне паспяховага бізнесу».

**1. І бултых падазронага ў воду**

Але Мікола Гусоўскі так бы і застаўся дыпламатам са здольнасцямі капірайтара, калі б у заказным, кан'юнктурным творы не скруціў сваю літаратурную хвігу ў кішэні. Бо зрэшты з «Песняй» атрымалася не так, як было запраграмавана рэкламным жанрам. «Песня пра зубра» стала не толькі раскошным габеленам – па-за багатым малюнкам хаваўся патаемны лаз у беларускае сукрытае. Адно што няёмкасці не патраплялі ў га-

лоўнае, магістральнае палатно твору – іх Гусоўскі параспхаў па закутках паэмы. Між радкоў праступае нястрыманы нораў сярэднявечных літвінаў ды не самыя сімпатычныя іх якасці: легкадумная няўпэўненасць, або наадварот – бяздумная зацятасць. Акрамя выхвалення і выгодаў – мулкая праўда:

«Летам заўсёды занятыя ў кровапраліццях, войнах усобных, якім ні канца ні пачатку».

Паляванне? О, у тым ліку і на ведзьмакоў:

Там той, хто вядзьмачыць ці знаецца
з д'ябальскай сілай –
Зараз жа суд і расправа:
няшчаснага схопяць
І, перавіўшы пастронкамі рукі і ногі,
Цягнуць к рацэ –
і бултых падазронага ў воду.

Не абмінае «Песня…» і ўзор моднай тады абсалютысцкай улады. Вось апісваецца панаванне Вітаўта, які жыў за сто гадоў да Гусоўскага:

...Сам і прысуд вінаватым выносіў, а тыя,
Цяжкасць віны ўсведамляючы, з ціхай
пакорай
Самі прыспешвалі час непазбежнае
смерці.

Калі ласка – у арганізаваным парадку ахвяры з энтузіязмам паўзуць у бок эшафота!

Калі сарказм немагчымы, тады Гусоўскі замятае свае шпількі ў непрыкметныя куты. У саменькім канцы паэмы, калі, здаецца, усё сказана было вышэй, улагоджанаму ды прыспанаму хвалебнымі гімнамі чытачу Гусоўскі шпурляе на стол сваё меркаванне пра айчынны істэблішмент:

«...Яны ж уладай сваёй злоўжываюць,
Стражы па назве, а так, па сутнасці –
зграя ваўкоў».[45]

---

45 Урывак з перакладу “Песні пра зубра” Уладзіміра Шатона ўзяты з выдання: Міхась Скобла. Галасы з-за небакраю. Анталогія паэзіі свету ў беларускіх перакладах XX стагоддзя. – Менск : Лімарыус, 2008

## 2. Матка ўсіх іміджавых ролікаў

Біблійная «Трэцяя кніга Царстваў» – матка ўсіх іміджавых ролікаў, прапрабабка «Песні пра зубра». Хіба што ў адрозненне ад «Песні...» мэтавая аўдыторыя «Трэцяй кнігі» – не іншаземцы, а найперш падданыя Юдэйскага Царства, якіх масава заклікаюць любіць паноўную дынастыю.

Эпоха цара Саламона паводле «Трэцяй кнігі Царстваў» – па-багатаму знятая палацавая прапаганда. Тут шмат запрошаных зорак – натоўп заморскіх цароў з адкрытым ротам слухаюць мудрасці ерусалімскага валадара. Выплывае з-за барханаў імпазантная царыца Саўская і яе стракаты картэж. На падтанцоўках – купцы і гастарбайтары з усіх куткоў свету. І дзесьці зусім у перспектыве – масоўка: караваны дыпламатычных місіяў з Міжрэчча і Егіпту цягнуцца на Сіёнскую гару, каб у ахвотку сплаціць цару належную даніну.

Цар Давід – поўны супярэчнасцяў, ад чаго яго вобраз набывае глыбіню і рэалістычнасць. У сумневах, пакутах і крыві выкшталцоўвае сваю дынастыю і дзяржаву. Ягоны сын Саламон нагадвае кардоннага героя.

Ён – сама станоўчасць, недасяжны ідэал. Шчодры, разумны, літасцівы, грамадзейскі. Схематычны манарх, які перамог неяк усіх і адразу. Лёгкі і элегантны. Ён – вялікі бізнесовец, будаўнік, каханак і пісьменнік.

У цара Саламона ўсяго шмат – грошай, коней, падпарадкаваных гарадоў. Калі Саламон кладзе на ахвярнік быкоў, дык іхняя колькасць сягае чатырох нулёў. А як вырашыў ажаніцца, дык спыніцца здолеў толькі, калі лік абранніц пераваліў за тысячу (паводле археолагаў – на той час гэта кожная пятая дарослая жанчына ў Ерусаліме).

Шырокія міжнародныя сувязі. Пры Саламоне мясцовая дынастыя ўпершыню прымярае імперскую мантыю. Нават пабудова Ерусалімскага Храму – транснацыянальны будаўнічы праект, у якім задзейнічаныя збольшага імпартныя матэрыялы і пераважна падрадчыкі-іншаземцы.

Саламонава краіна – бездакорна пабудаваная дзяржава, у якую абавязкова хочацца патрапіць. Заклік з мінуўшчыны, які парадкуе цяпершчыну і праграмуе будучыню. Як паказваюць сучасныя даследванні, канчатковае кшталтаванне тэксту «Трэцяй

кнігі Царстваў» адбывалася ў VII стагоддзі да нашай эры – праз дзвесце гадоў пасля меркаванага царавання Саламона. То бок у час, калі дынастыя Давіда па-ранейшаму панавала ў Ерусаліме, у сталіцы сціплай дзяржавы Юдэя, якая абдымала невялікі горад і горныя ваколіцы.

«І жылі Юда і Ізраіль спакойна, кожны пад сваім вінаграднікам і пад сваёю смакоўніцаю, ад Дана да Вірсавіі, ва ўсе дні Саламона»[46].

Адным словам, «купляй і будуйся, нашчадак бязлесны».

### 3. Хвіга ў кішэні

Але аўтары Бібліі не былі б добрымі літаратарамі, калі б пакінулі панегірык, не сказаўшы сцішанага «фе» распіяранаму ўладатрымцу. Бо хутка, вельмі хутка пасля смерці Саламона адбудзецца паняволенне Ізраільскага царства Асірыйскай імперыяй. А ўжо наступная, «Чацвёртая кніга Царстваў», дык увогуле зробіцца цвярозлівай справаздачай неразумнага кіравання Давідовай дына-

46 Трэцяя Царстваў 4:25.

стыі, якое прывяло да руйнавання Ерусаліму і вавілонскага выгнання.

Усё роўна як у «Песні пра зубра» голая праўда замеценая аўтарам(і) Бібліі ў самы кут. У менш прыкметныя кнігі ды ў другасныя раздзелы.

У прыклад можна падаць вымоўную сцэну з «Другой кнігі Летапісаў», куды, па шчырасці, рэдка хто заглядае. Да сына Саламона, цара Раваама, прыйшлі прадстаўнікі грамадскасці і просам просяць:

«Твой бацька абцяжарыў нас ярмом, а ты паслабі нам»[47].

І што ж Раваам Саламонавіч?

«Мой бацька ўзваліў на вас ярмо, а я павялічу яго, мой бацька караў вас бізунамі, а я буду – скарпіёнамі».

З пададзенай сцэны можна зрабіць як найменей тры прыкрыя высновы:

а. Саламонавыя падаткі былі непадсільныя;

б. за нясплату падаткаў Саламонавай уладай ужываўся гвалт;

в. які дуб – такі клін, які бацька – такі сын.

---

47 Другая Летапісаў 10:10.

Другі прыклад – больш фотагенічны. У самай рамантычнай частцы Бібліі, «Песні песняў», нібыта мімоходзь апавядальніца, каханка цара Саламона, падае такое апісанне святое святых царскага палаца – спальні:

«Вось ложак Саламонаў: шэсцьдзесят мужчын навокал яго, герояў Ізраільскіх. і кожны мечам апярэзаны, кожны навучаны біцца, у кожнага меч пры баку супраць страху начнога»[48].

Ну, далібог! Усімі абажанага, абагомленага суачыннікамі ды замежнікамі, упэўненага ў сябе манарха, па перыметры – нават не палаца, а ўласнага ложка! – вымушаныя ахоўваць ні больш ні менш, як падраздзяленне спецназу! А сам светач пакалення ўначы трымціць, як асінавы лісток.

Атласныя прасціны адшморгнуліся. У днішчы царскага ложка зеўрае лаз да сукрытых безданяў Саламонавага царавання…

48 Песня Песняў 3:7. Тут і ў наступным раздзеле цытаты з “Песні Песняў” цытуюцца ў перакладзе Сяргея Шупы.

# Роля мамы ва ўсталяванні аўтарытарных рэжымаў

## 1. Таямніца ерусалімскай кароны

«...На ложы маім начамі шукала я ўлюбёнага душы маёй, шукала і не знайшла яго. Устану я і абыду горад, па пляцах і вуліцах пашукаю ўлюбёнага душы маёй».

Што прыстойная дзяўчына робіць у завуголлях начной сталіцы? Усё, вядома, можна спісаць на паэтычную вобразнасць, але ж... Калі мы ўжо зачапіліся ў папярэдняй раздзеле за трэцюю частку «Песні песняў» дык давайце з перакладчыкам Сяргеем Шупам пойдзем па ерусалімскіх вулках за гэтай экзальтаванай паненкай. Т-с-с! Ёсць падазрэнне, што ўсё не так проста з тым «старажытным узорам эратычнай паэзіі». Бо як мы ўжо пабачылі, нават мілосныя гімны ў Бібліі часам выходзяць з паэтычнае плашчыні ў плашчыню празаічную, і нават – палітычную. Пагатоў аб'ект кахання – цар Саламон.

«Сустрэлі мяне вартаўнікі, што абыходзілі горад; ці бачылі вы ўлюбёнага душы маёй?»

Так размаўляць пасярод ночы з нарадам міліцыі! Цікава, што адказала ім дзяўчына, калі вартаўнікі перапыталі пра асобу каханка? А дакладней, як зрэагавалі, калі пачулі на сваё пытанне дзявочы адказ «кіраўнік краіны»?

Хай там што, але начны патруль не палічыў дзяўчыну абкуранай ладанам і пайшоў сабе далей:

«Ледзь я прамінула іх, як знайшла я ўлюбёнага душы маёй; схапіла яго я і не адпушчу».

Высвятляецца, кіраўнік краіны – таксама вялікі аматар начных бадзянняў! Але хадземце далей. Сарказм, канечне справа добрая, але ёсць адчуванне, што зараз пачнуцца і рэальныя справы:

«Вось ложа яго, Саламонава, шэсцьдзесят ваяроў вакол яго з ваяроў Ізраілевых. Усе яны з мячамі, умелыя ў баі; у кожнага меч на сцягне дзеля страху начнога».

Нарэшце закаханыя прашыліся ў палац, у прыватныя пакоі.

«Паланкін зрабіў сабе цар Саламон з дрэваў ліванскіх. Апоры яго зрабіў з срэбра, абіўка яго з золата, седзішча яго з пурпуру; сярэдзіна ўсланая каханнем дачок ерусалімскіх».

Дзяўчына разгубілася і на аўтамаце працягвае апісваць дробязі. Убачыўшы ў спальні ўвесь гэты вавілонскі натоўп, складзены з узброенага падраздзялення спецназу і тысячы жонак, наваленых на ложак, скеміла, што рамантычна адасобіцца ў іх з каханым гэтай ноччу не атрымаецца.

«Хадзіце й паглядзіце, дочкі Сіёну, на цара Саламона ў вянцы, якім увянчала яго маці ў дзень вяселля ягонага ў дзень радасці сэрца ягонага».

О! Тут жа наша дзяўчына бярэ сябе ў рукі. Збянтэжанасць доўжылася роўна адзін верш. У прысутнасці фараонавай дачкі, маавак, аманіек, эдомак ды іншых жонак і наложніц у яе хапіла мужнасці не ладзіць прагавітаму каханку сцэн. Больш за тое – яна адцягвае ўвагу ад сваёй разгубленасці гісторыяй. Сутнасць гісторыі, безумоўна, вядомая прысутным ды пададзеная дзяўчынай у іранічным ключы – пра Саламонаву маму і яе ролю ў перадачы кароны ад бацькі Давіда да сына Саламона. Бо вяселле для манарха – гэта найперш дзень каранацыі, калі ён сімвалічна бярэ шлюб з любаснай краінай. І вясельны вянец – гэта карона.

...Дык што хаваецца за гісторыяй з каранаваннем? Трэба прызнацца, што зоркі-суперстары і запісныя мачо Давід і Саламон пачасту паводзіліся нерашуча, боязка, што прыводзіла да палітычных крызісаў. І тады дзяржаўную праблему каторы раз ў гісторыі ўзяла на сябе развязваць любячая жанчына, Саламонава мама, Бат-Шэва.

На Божай пасцелі Давід млява выбіраў сабе спадкаемца. Ён меў шэсць жонак і безліч нашчадкаў. Ватага сыноў на чале з абмітным, першым у чарзе па трон сынам Адоніем фактычна накінулася на продка з крыкам: «Бацька, карону давай!» і вось Давід, віртуозны майстар палітычнай інтрыгі, які прывык свае славесныя заявы не атаясамліваць з рэальнымі справамі, тады проста разгубіўся.

Умелец «казаць і не сказаць» мусіць прымаць адназначнае рашэнне. Рашэнне, якое чыйсці сыновы клан абавязкова скрыўдзіць. Са свайго боку прызначаны крон-прынц, улюбёны сын Саламон, забіўся ў кут і не выказвае палітычнай ініцыятывы. У бітве сыноў мае перамагчы больш амбітны і менш любімы Адонія.

Вось тады ў бой і ўступае Бат-Шэва, Давідава жонка і Саламонава матка. Заручыўшыся падтрымкай святароў, яна выправілася ў палац пагаварыць з мужам па-свойску:

«Ты прысягаў тваёй рабе тваім Госпадам Богам: твой сын Саламон будзе валадарыць пасля мяне і ён сядзе на маім пасадзе!»[49]

Адным словам, «май сумленне, майстар палітычнай інтрыгі!»

...Закаханая дзяўчына ў свае словы пра вяселле-каранацыю ўплятае не толькі кепікі з мамчынага сынка Саламона, але таксама з самое сябе. «Хадзіце і паглядзіце, дочкі Сіёна... на мяне, дурную!» Так, яна дала пудла – пакахала чалавека, чый ложак перапоўнены іншымі жанчынамі. Яе собіла стаць тысяча другой жонкай Саламона (бо тысяча першая гэта, відавочна, каралева-маці)».

**2. Як зацяжараць у 89 гадоў?**

Біблія – не самая вясёлая кніга. Жарты ў ёй – нячастыя, а іронію, як у пададзеным вышэй выпадку з начнымі прыгодамі ў палацы, можна вычапіць адно са здага-

49 Трэцяя Царстваў 3:17.

дак і спасылак на іншыя раздзелы. Словы «смех» і «смяяцца» сустракаюцца ў Старым Запавеце толькі ў адным месцы – у «Быццийнай» гісторыі пра Абрагама і Сару. Тады Ўсёмагутны паабяцаў немаладой пары сынка. Пачуўшы абяцанне, пані трошкі ў гадах (Сары на той момант 89) ціхенька засмяялася. Не засаромеўшыся прысутнасці свайго Госпада, яна з сумневам у голасе выпальвае: «Ці мне, калі я пастарэла, мець гэтую ўцеху?»[50] Аднак Сутны, пусціўшы Сарына нахабства між вушэй, настойвае. Гэта будзе дакладна сын, і яго варта назваць менавіта Ісаакам (іўрыт «Іцхак» – «Той, які будзе смяяцца»).

У гэтай гісторыі чытач з палёгкай высвятляе, што нягледзячы на біблійную сур'ёзнасць, у «Кнізе Роду» пачуццё гумару ёсць ва ўсіх.

Мае яго прамацер. Бяздзетная кабета, даўно засмучаная з гэтае нагоды, усё ж знайшла ў нечаканай прапанове і сваім гаротным стане камічныя бакі.

Гумар ёсць у аўтара(ў) Бібліі. Аповед захаваў стрыманасць, калі некалькімі старонкамі раней валадары Садомскі і Гаморскі

50 Роду 18:12.

ўваліліся ў яміну са смалой. Не абсмоктваў выпадку, калі Ной напіўся і ляжаў голы. Аповед абыякава абмінуў увагай гэтыя ў чымсьці камічныя моманты і ўрэшце засяродзіўся на сапраўднай драме (калі такое можна сказаць пра камедыю).

Пачуццём гумару не абдзяліў сябе і сам Госпад Бог. Ён ацаніў саркастычны выпад Сары супраць сябе. І адразу ж вырашыў увекавечыць яго ў імені. Каб чалавецтву праз дзевяць месяцаў стала ясна, хто тут смяецца апошнім.

Дарэчы, пасля выпадку з Саламонавай каханкай і Сарынай цяжарнасцю ў Бібліі ўсё выразней выкрышталізоўваюцца тры складнікі безумоўна безадмоўнага жарту. Абавязковая самаіронія, меладраматычная тэатральнасць і наяўнасць (часам, завочная) чыёйсьці мамы.

### 3. Біблійныя мамы

У Бібліі мамы ў імя дабра сваіх дзяцей нярэдка змагаюцца з дабром абсалютным, з дабром Боскім.

Бо хто падбухторыў Якава пераапрануцца ў свайго брата Ісава і падманам

адабраць у бацькі асвечанае Госпадам блаславенне першынца? Праз шмат гадоў прайдзісвету (а значыць, і яго клапатлівай маме Рэвецы) адплаціцца напоўніцу. Закаханаму ў Рахіль Якаву давядзецца цэлых чатырнаццаць гадоў задарма гнуць спіну на будучага цесця, падступнага Лавана, каб у выніку атрымаць не любую жанчыну, а ейную сястру Лію.

Мама ханаанскага вайскаводцы Сісры, чакаючы свайго сына з ваеннае выправы, у прастадушнай крыважэрнасці мроіць, як яе сынок рабуе і гвалціць:

«Чаму не спяшаюцца яго вазы, чаго замарудзілі колы яго калясніц?.. Пэўна, знайшлі яны і дзеляць здабычу, па дзяўчыне, па дзве дзяўчыны на кожнага мужчыну, каляровыя тканіны здабычай для Сісры»[51].

Так, мамаў можна вінаваціць у чым заўгодна. У немаральнасці, вераломстве, адступніцтве, блюзнерстве. У гадаванні аўтарытарных лідэраў. Але толькі не ў тым, што яны не любяць сваіх дзяцей.

А любоў, як вядома – справа Боскага ўзроўню. Дзякуючы гэтай цноце, мамы ад-

51 Суддзяў 5:28-30.

ваёўваюць сабе пачэснае месца ў Кнізе Кніг. Самай магутнай маральнай устаноўкай, адным з Дзесяці Прыказанняў, Біблія абавязвае людства шанаваць маці сваю (якой бы тая ні была). А парушальнікам Біблія ўсёй правамоцнасцю абяцае ўсялякія прыкрасці кшталту заўчаснае смерці.

**П.С.** Вось як выглядае ўзорна-паказальны алгарытм сямейнага жыцця дарослага мужчыны паводле Кнігі Роду прапануе ўжо прыгаданы ў гэтай кнізе пісьменнік Меір Шалеў:

«Прывёў яе (Рэвеку) Ісаак у намёт Сары, сваёй маці, узяў Рэвэку, і яна стала яму жонкай, ён палюбіў яе; суцешыўся Ісаак па сваёй маці»[52].

Менавіта ў такім парадку:

а. прадстаўленне нарачонай маме з атрыманнем матчынага блаславення.

б. пераезд да мамінага жытла.

в. жаніцьба.

Пасля жаніцьбы (і толькі пасля яе!), можа быць, можа быць, прыйдзе

г. любоў да жонкі.

---

52 Роду 24:67.

І адно ў саменькім канцы як вялікая ласка мужчыне дазволіцца:

д. выхад з-пад эмацыйнага ўплыву мамы.

## Кніга Эстэр. 3D-версія

### 1. Не хачу жаніцца, а хачу вучыцца

Са школы мы ведаем гэтую гісторыю. Выдатна адукаваная князёўна Прадслава адмовілася ад дынастычнага шлюбу. Насуперак волі бацькі прыняла пострыг на імя Еўфрасіння і сышла ў манастыр, дзе прысвяціла сябе служэнню. Далей, залежна ад упадабанняў аўтара, гісторыя разгаліноўваецца. На рэлігійны атожылак – маладая ігуменьня шчыравала дзеля ўмацавання веры. Патрыятычны – дачка свайго народа занялася асветніцтвам і мецэнацтвам. Або феміністычны – грамадская дзеячка адкрыла жаночы манастыр для вяльможных, прагных да ведаў паненак.

Гэтак, абраўшы адпаведны колер шкельца, мы асвятлілі галоўную гераіню, ушчэнт забыўшыся на тло і аб'ём. Выхапіўшы самае яскравае, сакавітае, зацянілі рэшту сцэны.

Зацямнілі і адрэзалі дэкарацыі, у якіх разгортвалася дзея.

Неасветленым застаўся цэлы свет.

**2. Дык што там, па-за?**

Непрыемныя навіны для інтэлігентных дзяўчат. На двары – XII стагоддзе. Спадарства, не XX, і нават не XVIII! Сярэднявякоўе. Пагалоўная непісьменнасць, нават сярод князёў. Татальная полавая сегрэгацыя. Жанчыны нават елі за асобным сталом.

Жыццё маладой княгіні запраграмаванае наперад. Ёй давядзецца зрабіцца серыйнай парадзіхай інфантаў, запратаранай у глыбіню жаночых пакояў. Атачыцца мамкамі, задаволіцца мужавым ласкавым хлебам. Для амбітнай, бліскуча выхаванай жанчыны – цёмны танэль без канца і святла.

У процівагу палацу, манастыр – свет адкрытых магчымасцяў. Не варта тут адразу ўяўляць кепскаасветленыя келлі, таўшчэзныя манастырскія муры і павешаную ў царкоўнай лядоўні мыш. Гэта ўсё так, але ёсць яшчэ сёе-тое. Манастыр – гэта кнігі. Гэта філасофія, этыка і алгебра. Гэта лаціна,

грэцкая і арабская. Гэта цікавыя, адукаваныя суразмоўніцы, а часам суразмоўцы. Гэта дачыненні ў міжнародным камʼюніці хрысціянскіх манахаў і манашак. Гэта падарожжы. Ад сучаснікаў мы даведваемся: Еўфрасіння памёрла падчас пілігрымкі ў Ерусаліме, які тады ў выніку крыжовых паходаў належаў еўрапейцам. Якую б царскую або каралеўскую жонку адпусцілі так далёка?

Гэта дзяржаўная служба. Дзякуючы назапашаным ведам і адукацыі манастыры даюць паслугі ў розных сферах канцэлярскай дзейнасці: напісанне загадаў і хронік, утрыманне архіваў. Меркаванне сучасных гісторыкаў, што Еўфрасіння пэўны час кіравала з манастыра Полацкім княствам, ужо не падаецца ўзятай згары фантазіяй.

Еўфрасіння не сышла ў манастыр, а паступіла туды. Як цяпер паступаюць на магістарскую праграму ці на дзяржаўную службу. Сваім крокам Еўфрасіння зрабіла гэтаксама, як у свеце, якім валодаюць мужчыны, на працягу ўсёй чалавечай гісторыі, прагматычна паступалі мудрыя жанчыны. Зрабіла слушны выбар у сітуацыі без выбару.

**3. Міс Персія-650 (да н.э.)**

На першы позірк біблійная Эстэр (у Скарыны Есъферъ) – поўная процівага вяльможнай Еўфрасінні. Нацменка, «панаехала», сірата. Аднак Эстэр таксама дзяўчо дальнабачнае, хоць пільнуецца іншай стратэгіі выжывання ў сваім спрэс мужчынскім часе. У процівагу блакітных крывей Еўфрасінні, без дынастычнага заплечча Эстэр выбірае стаць царыцай – ды, скрыгочучы і чапляючыся зубамі, заставацца ёю за ўсякую цану. У адрозненне ад Еўфрасінні Эстэр няма як сыйсці ў паралельную рэальнасць.

Гісторыя такая. Пасля паўгадовага (!) фуршэту і сямідзённага афтэр-паці ў сваім палацы персідскі цар Артаксеркс абвяшчае персанальны конкурс прыгажосці. Ён будзе абіраць новую першую жонку, бо папярэднюю, царыцу Вашці, ён забіў за адмову танчыць перад гасцямі.

Шчаслівая пераможніца рэаліці-шоў – габрэйка Эстэр, пляменніца дзяржчыноўніка Мардэхая. Але перад пачаткам сэкс-агледзін у царскай спальні яе і яшчэ некалькі сотняў прэтэндэнтак прымусілі адмакаць у духмяных ваннах.

«Шэсць месяцаў міравым алеем і шэсць месяцаў духмянасцямі і іншымі прыціркамі жаночымі»[53].

Год у марынадзе. Цэлы год. Менавіта тады, безвылазна марынуючыся і мімохадзь разважаючы добра гэта ці кепска, Эстэр, мусіць, і прыняла рашэнне. Распешчаная, распушчаная ў пахошчах паненка намысліла дзейнічаць.

Калі мужчыны такія вар’яты, дык яна не супраць. Эстэр будзе працаваць з тым што ёсць. Ладзіць жыццё і кар’еру ў свеце псіхапатычнага і лёгка маніпуляванага цара Артаксеркса. Побач з садыстым нарцысам Аманам, царскім дарадцам, а таксама пыхлівым дзядзькам Мардэхаем з яго абсесіўным нежаданнем падаць ніц перад персідскімі іншаверцамі. Эстэр будзе непатрабавальнай і лагоднай жонкай, паслугуючыся перавагамі – прыгажосцю і маладосцю. Не будзе высоўвацца са сваімі хоцькамі, каб заслужыць давер цара. Не будзе вытыркаць языка пра таямніцы свайго паходжання і вызнання. І чакаць, чакаць свайго часу.

53 Эстэр 2:12.

Эстэр згуляла ў дзіўныя, смерцяносныя мужчынскія гульні і перамагла. Каб занадта не спойлерыць, перанясемся да саменькага хепіэнду. Эстэр заваёўвае яшчэ большую прыхільнасць у свайго венцаноснага мужа, дамагаецца ў персаў узвышэння для свайго дзядзькі і народа, а вораг Аман і якія з ім – боўтаюцца на вяроўках.

**4. Міф**

Эстэр – не прыхільніца эмансіпацыі. Як на добры лад, дык сапраўднай іконай жаночага руху мусіць тут стаць яе папярэдніца, царыца Вашці, а не Эстэр:

«На сёмы дзень, калі развяселены віном цар сказаў... паклікаць царыцу Вашці да аблічча цара ў царскай кароне, каб паказаць народам і князям прыгажосць яе... ...Але царыца Вашці не захацела прыйсці на загад цара, абвешчанага праз еўнухаў»[54].

Цар Артаксеркс, былы конюх і забойца бацькі Вашці, які п'яным голасам патрабуе танцаў царыцы (можа быць, толькі ў адной кароне), каламутныя вочы яго сябрукоў. Царыца, якая са следзяным ад жуды сэрцам

54 Эстэр 1:10-12.

кажа лёсавызначальнае «не», царскі гнеў, які следуе за адмовай... Пачуўшы пра пакаранне, растыражаванае па імперыі граматамі («да кожнага народа на мове яго») дзеля настаўленне непакорных жонак, Эстэр добра засвойвае, які лёс чакае бунтарак. Стаўшы царыцай, яна давеку адмовіцца ад адкрытага процістаяння.

Не ўвасабляе Эстэр і гонар заняволенага народа. Яна не толькі бясконца падае ніц перад царом, спіць з іншаземцам, а з гледзішча юдэйскіх святош яшчэ горш – як падалей хаваючы сваю рэлігійную прыналежнасць, хіліцца да іншых багоў (напрыклад мяняе імя з ханаанскага Гадасы на персідскае Эстэр, у гонар язычніцкай багіні Іштар).

### 5. Womenpower

Аднак маладая Эстэр моцная ў пралічванні і лічэнні. Тое, што з млявым і старым царом не здолелі зрабіць зламыснікі ды інтрыгі, зробяць празмернасць і вялікія гады. Яна занятая думкамі пра Дарыя II, ейнага сына, будучага персідскага валадара. Эстэр ясна бачыць, як стоячы па правую руку ад

трона маладога манарха яна надыктоўвае прыдворным пісцам новы раздзел царскай хронікі, якую будуць менаваць гэтак – «Кніга Эстэр».

Праз два тысячагоддзі, ужыўшы сваю далучнасць да пісьменнніцкага цэха, Прадслава паруПіцца пра стварэнне векапомнага «Жыція Еўфрасінні Полацкай». А таксама падбае пра выкшталцоны крыж, які з нашчадкаў ніхто чамусьці не мянуе «крыжом Лазара Богшы».

## 600 тысяч дармаедаў

### 1. Мячы на аралы

Біблія заклікае цешыцца працай.

«Ты будзеш есці ад працы тваіх рук, дабрашчасны ты і добра табе»[55].

Работа ў Старым Запавеце – неад’емная частка людскога жыцця. Настолькі неад’емная, што яна не скончыцца нават на «заканчэнні дзён», пра якія кажа прарок Ісая. Калі народы, адкінуўшы свае абавязкі і заняткі, падымуцца на Гасподнюю гару, дзе іх чакаць-

55 Псальма 127.

ме апошні суд, лічыць Ісая, нават у такіх экстрэмальных умовах чалавецтву давядзецца закасаць рукавы:

«Перакуюць мячы на аралы, і свае дзіды – на сярпы»[56].

Паміраць памірай, а пашаньку засявай.

Але гэта не дзіўна. Яшчэ на пачатку дзён нібыта ўзорны дармаед Адам не соваўся без справы:

«Узяў Госпад Бог чалавека, якога стварыў, пасяліў у садзе Эдэнскім, каб урабляць яго і захоўваць яго»[57].

У даважак Усявышні стварыў новаспечанаму садоўніку каляжанку – сам Адам з плантацыямі экзатычных дрэваў рады не даў бы.

Праўда, тая праца няцяжкая. Гэтаму зарука плоднасць саду і воднае багацце. У Евы нават заставаўся час і змога наведваць марксісцкі гурток Змея, а таксама ладзіць кравецкую майстэрню па пошыве для ўсяго чалавецтва апаяскаў з лістоты.

---

56 Ісаі 2:4.

57 Роду 2:16. Працоўны пераклад групы Ірыны Дубянецкай.

**2. Чалавек намётаў**

Прыемная ў чымсьці ганаровая праца ў Эдэме стала поўнай процівагай катарзе, якая чакала чалавецтва на зямлі. Гледзячы на людзей, якія выжыльваюцца, каб выжыць, у поце свайго чала, Госпад яшчэ доўгія стагоддзі не адкрые ім нябеснага вучэння. Ні Адаму, ні Еве, ні іхным дзеткам – Каіну і Авэлю. Ні іхным нашчадкам, працаўнікам караблебудаўнічай кампаніі «Ной і сыны», якіх захлёстваюць нялітасцівыя дэдлайны.

Нават прабацькам і прамацерам – Абрагаму, Сары, Ісааку і Рэвецы даступныя толькі асобныя драбкі Божых законаў. Адна з прычын Богавага ігнаравання – занураⁿнасць людзей у штодзённы клопат.

Прыклад братоў-блізнюкоў Ісава і Якава, сыноў прабацькі Ісаака, наглядна паказвае слабыя бакі працаголіка. Ісаў, «чалавек спрытны ў ловах, чалавек палёў», ад рана да рана заняты паляваннем. Якаў, «чалавек рахманы, жыхар намётаў», вядзе хатнюю гаспадарку, абслугоўвае Ісава. Агінаючыся ў цяньку і маючы вольны час, Якаў пачынае няспешна песціць план, як спрытней адняць у брата перавагу першародства (вель-

мі каштоўны прывілей). Седзячы дома і варачы тагачасны боршч, поліўку з чырвонае сачыўкі, Якаў вырашае згуляць на нястрыманасці чалавека, які толькі што вызваліўся з доўгай працоўнай змены.

«Чырвонага, вось гэтага чырвонага хачу!» – гырчыць, паказваючы на рондаль, знясілены і згаладалы Ісаў. Ён цэлы дзень паляваў на звера. Ад увіханняў і голаду цвярозая развага Ісава сапсавалася, ерархія каштоўнасцяў часова разбурылася:

– Вось я паміраю... Што мне з гэтага першародства?

За місу чырвонае сачыўкі ён прадае такі дарагі, прэзэнтаваны зверху дар.

Праўда, разняволенаму разумніку Якаву адплацілася. І таксама праз працу. Ужо ўцякаючы ў зямлю Харан ад гневу Ісава, Якаў спыніўся ля студні ў пустэльні. Акрыляўшы ад позірку чароўнае Рахілі, рахманы Якаў адваліў ад вусця студні цяжэзны камень, які ссунуць здольныя хіба некалькі мужчын. Гэтак, мімавольна прадэманстраваўшы фізічную моц, Якаў патрапіў на аловак да бацькі Рахілі, падступнага Лавана. За абяцанкі аддаць Рахіль у жонкі Лаван зацугляў буду-

чага зяця і чатырнаццаць наступных гадоў бессаромна экплуатаваў, цягнуў з прымака жылы.

### 3. Дармаедства як усвядомленая неабходнасць

Упершыню Госпад цалкам адкрывае ўсе свае законы вольным (ад фізічнае працы) людзям. Гаворка ідзе пра ўцёклых з Егіпту рабоў.

Спярша Ён сілком адлучае нявольнікаў ад работы – выгадаваўшы баявітага правадыра і наслаўшы на фараона-працадаўцу дзесяць жахлівых караў. Потым, ужо ў Сінайскай пустэльні, Усявышні спансаруе дармаедства. Цягам сарака гадоў шэсць разоў на тыдзень пасылае шасцістам тысячам дарослых бадзяг дапамогу па беспрацоўі – нябесную манну.

Толькі пад голымі зоркамі Сінайскай пустэльні, вызвалены ад катаржных работ і вярэдлівых думак пра заўтрашні наедак, народ робіцца здатным спасцігнуць усе глыбіні Боскага адкрыцця.

Сярод Сінайскіх запаветаў Госпад таксама вызначае парадак людской працы:

«Шэсць дзён працуй, а ў сёмы дзень спачывай»[58].

І далей у тэксце бяжыць пералік іншых чырвоных дат календара. Ажно складваецца ўражанне, што акцэнт у гэтым запавеце зусім не на шэрых шасці буднях. Адчуваецца, Госпада хвалюе вольная часіна падшэфных. У гэтыя адметныя дні людзі, звёўшы фізічную працу да мінімуму, мусяць заняцца іншай работай – духоўным дасканаленнем і слаўленнем вышыняў.

Цяпер сэнс выслоўя парадаксальнага Эклезіяста: «Уся людская праца – для рота, а душа чалавека – не насычаецца»[59] – робіцца больш цямны. Каб думаць пра боскае, патрэбны перапынак ад працоўнай руціны. Можа, на адзін дзень, а, можа, на сорак гадоў.

58 Выхад 34:21.

59 Эклезіяст 6:7. Пераклад Васіля Сёмухі.

Змест

Павал Касцюкевіч

**16+**

# Бульба ў райскім садзе

беларускі праваднік
па Старым Запавеце (ТаНаХу)

*Рэдактары* Ева Вайтоўская і Ян Максымюк
*Вёрстка* ЛюдМіла Адамовіч
*Дызайн вокладкі* Сяргей Шаматульскі

Logvino Literatūros namai
J. Savickio 4, LT-01108 Vilnius

Надрукавана ў ПВУП «Логвінаў»
пр-т Незалежнасці, 37а, Мінск